E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 10 (15) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ЧЭРВЕНЬ 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

# Народнае развітанне з Васілём Быкавым



## Адкрыты ліст

*Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь*
*А.Р.Лукашэнку*

Мы, жыхары вуліцы Няміга ў г.Мінску, лічым недапушчальным будаўніцтва шматпавярховага паркінга на нашай вуліцы, бо праца такога паркінга нясе непасрэдную пагрозу нашаму здароўю, а будаўніцтва яго ў цэнтры г. Мінска супярэчыць імкненню беларускага народа да захавання сваёй гістарычнай спадчыны.

Васьміпавярховую аўтастаянку з гандлёвымі аб'ектамі плануецца пабудаваць на вуліцы Няміга, на тэрыторыі мінскага Верхняга горада, які мае статус гісторыка-культурнай каштоўнасці катэгорыі «1» як помнік міжнароднага значэння. Паводле Закона аб ахове гістарычнай спадчыны тут забароненае любое новае будаўніцтва, якое парушае гістарычнае асяроддзе. Нягледзячы на гэта, праект прасоўваецца дзяржаўнымі чыноўнікамі, якія павінны дбаць пра захаванне гістарычнай спадчыны. Будаўніцтва вялікай аўтастаянкі на запаведнай тэрыторыі гістарычнага цэнтра Мінска прывядзе да знішчэння унікальных помнікаў археалогіі, горадабудаўніцтва і архітэктуры XII–XIX стагоддзяў.

Будаўніцтва аўтастаянкі ў цэнтры Мінска недальнабачнае з пункту гледжання клопату пра здаровае і зручнае асяроддзе для чалавека. У такіх гарадах, як Лондан, Сеул, Лос-Анджэлес, Парыж, высілкі адміністрацыі накіраваныя на разгрузку горада (і асабліва цэнтра) ад аўтамабіляў, замену іх грамадскім транспартам, стварэнне зручнай і дастаткова вялікай сеткі веласіпедных і пешаходных дарожак. Апрача паляпшэння якасці паветра, такія меры дазваляюць разгрузіць існуючыя дарогі і пазбегнуць неабходнасці будаваць новыя, эканомяць час тых, хто едзе па горадзе.

**Усяго 138 подпісаў**



**Паркінг, супраць якога пратэстуюць жыхары Нямігі, запланавана ўзвесці насупраць Петра-Паўлаўскай царквы і шматпавярховага дома, што бачныя на здымку. Нехта так моцна праціскае гэты дзікунскі праект, што на людзей і царкву чыноўнікі проста не зважаюць.**

# Ліквідацыя беларускага ліцэя

## *Улады старанна выкарэньваюць нацыянальную асвету*

На мінулым тыдні навучэнцы ліцэя імя Якуба Коласа праводзілі чарговую акцыю ў абарону сваёй навучальнай установы, якую ўлады мяркуюць зліквідаваць праз адміністрацыйныя механізмы.

Гэтая акцыя была ўжо чацвёртай па ліку. Першыя тры, наладжаныя вучнямі, бацькамі і выкладчыкамі, праходзілі мірна ў цэнтры горада, у раёне Кастрычніцкай плошчы, без усялякіх эксцэсаў. Чацвёртую навучэнцы вырашылі правесці на плошчы Якуба Коласа, імя якога нясе Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй, каб звярнуць увагу на праблему захавання адзінай беларускамоўнай вучэльні ў краіне. Гэтым разам мірны характар акцыі доўжыўся чвэрць гадзіны, пакуль не з`явіліся міліцыянты. Яны разагналі вучнёўскі пікет, некалькі чалавек, у тым ліку намеснік дырэктара ліцэя Лявон Баршчэўскі, былі затрыманыя. Яшчэ раней улады не дазвалялі бацькам правядзенне пікетаў у абарону ліцэя каля будынка Міністэрства асветы на плошчы Незалежнасці і ў Міхайлаўскім скверы побач з будынкам, дзе месціцца гарана. Тады заяўнікам было прапанавана праводзіць пікеты ў парку Дружбы народаў на плошчы Бангалор у акрэсленыя дні і ў акрэслены час (з 16 да 18.30). Пагадзіцца з гэтакай здзеклівай прапановай бацькі не захацелі.

26 чэрвеня навучэнцы Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя і іхныя бацькі правялі ў цэнтры Мінска на пр. Скарыны насупраць універсама «Цэнтральны» чарговы пікет. У ім бралі ўдзел каля 100 чалавек. Яны трымалі плакаты «Пакіньце беларускі ліцэй беларускім!», «Нам не трэба зменаў!», «Я люблю ліцэй!», а таксама геаграфічныя карты і падручнікі.

Стоячы ў пікеце, вучні і іх бацькі не ведалі, што Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, які яны хацелі захаваць, ужо указам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ліквідаваны ад 25 чэрвеня 2003 года. Кіраўніцтва міністэрства паведаміла пра гэта намесніку дырэктара музея Уладзіміру Коласу ранкам 27 чэрвеня. У сувязі з ліквідацыяй звольнены ўсе выкладчыкі ліцэя. Цяпер Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй будзе называцца Мінскі гарадскі дзяржаўны ліцэй. Гэта азначае, што статус навучальнай установы наўмысна значна паніжаны. Відавочна, што і навучанне ў новым ліцэі не будзе цалкам беларускамоўным. Адзіная ў краіне беларускамоўная вучэльня знішчана. Такія дзеянні Міністэрсва асветы сведчаць, што ўлады імкнуцца ліквідаваць галоўны набытак ліцэя, апроч, беларускамоўнага навучання, – нацыянальны дух, атмасферу вольнадумства і дэмакратычны дух.

**Уладзь СТУДНЕВІЧ**

**Каментар НЧ:**

**Пераўтварэнне Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа ў Мінскі гарадскі дзяржаўны ліцэй – безумоўна адмоўная знакавая падзея. Афармленая ўказам у чэрвені, гэтая ліквідацыя беларускамоўнай навучальнай установы была вырашана даўно. Сёння ў Беларусі не застаецца ніводнай навучальнай установы, якая імкнецца праводзіць навучанне дзяцей у беларускай мове. І галоўнае – якая здольная гэта рабіць прафесійна, мае адпаведны вопыт, выпрацавала методыкі, стварыла традыцыю, заваявала аўтарытэт. Дзесяцігадовая праца калектыву настаўнікаў, высілкі мноства людзей, скіраваныя на стварэнне гуманітарнай не па назве, а па зместу і духу, вучэльні, пайшлі дымам.**

**Відавочна, што гэтакая адукацыйная палітыка міністэрства мае на мэце далейшую русіфікацыю асветы, непрыхавана дэманструе непрыязь да беларускай культуры і мовы, да самастойнасці педагогаў, дэмакратычнага духу адукацыі. Нават у савецкія часы беларуская школа не была ў такім заціснутым стане, які назіраецца зараз. Ліквідацыя ліцэя – як чароўнае люстэрка гаворыць праўду пра распрацоўшчыкаў і выканаўцаў такіх праектаў. Уражвае і педагагічная жорсткасць, абыякавасць да вучняў, якімі насычана гэтая міністэрская акцыя. Па меншай меры вучні двух ліцэйных курсаў патрапілі пад бяздушны чыноўніцкі ультыматум – ці пераходзіць у інскі гарадскі ліцэй з новым настаўніцкім калектывам, ці шукаць дзе звычайную новую школу? І гэта ў апошнія два гады навучання! Ці хацелі б міністэрскія кіраўнікі, каб іхныя дзеці перажылі такі стрэс? Свае зарплаты яны атрымоўваюць за кошт падаткаплацельшчыка, г. зн. і за кошт бацькоў навучэнцаў ліцэя, а паводзяць сябе яны так, нібыта ліцэі, школы, лёс дзяцей – іхная панская ўласнасць. Няўжо добра ім робіцца на сэрцы, калі робяць на шкоду народнай асвеце і плямяць сябе перад падлеткамі?**

## Кубак моладзевай паэзіі

Гэтак крыху на спартыўны лад называлася спаборніцтва юных паэтаў у Пінску

Антураж паэтычных спаборніцтваў быў надзвычай рамантычны... Маладыя галасы, што апяваюць трапяткія пачуцці... Расчуленае ледзь не да слёз журы... Настрой ідыліі падкрэслівала нават назва вуліцы, дзе ўсё адбывалася – Добрая.

Журы таксама было добрае, але задача перад ім стаяла не з лёгкіх. З 40 удзельнікаў, што прачыталі па адным сваім вершы, трэба было выбраць трох пераможцаў. Галоўны прыз – паездка ў шведскі горад Гётэборг на міжнародны кніжны кірмаш. Паводле арганізатараў, а гэта грамадская арганізацыя «Калегіум», яны былі самі ўражаныя колькасцю юнакоў, што адгукнуліся на запрашэнне ўзяць удзел у фестывалі. Па школах проста разаслалі запрашэнні, і высветлілася, што падлеткі не толькі трызняць кампутарамі, але і пішуць вершы.

Імпрэза ладзілася ў межах Дзён беларускае і шведскае паэзіі. У Пінск прыехалі рэдактарка шведскага вэб-сайту пра Беларусь Марыя Сёдэборг, шведская пісьменніца Інга-Ліна Лундквіст, даследчык беларуска-шведскіх узаемасувязяў гісторык Андрэй Катлярчук ды іншыя.

Удзельнікі фестывалю адзначылі, што імпрэзы падобнага маштабу не ладзіліся ў Беларусі ад пачатку 90-х мінулага стагоддзя. Два дні зала была перапоўненая.

Апроч школьнікаў свае вершы прачыталі і мясцовыя паэты з Пінску, Лунінца, Мікашэвічаў. Выступіла паэтка Інга-Ліна Лундквіст, што піша па-руску, бо родам з Барысава. Каб паказаць сваю радзіму, яна прывезла са Швецыі мужа і дваіх дзяцей.

Што да журы, дык некаторыя чальцы, слухаючы вершы школьнікаў, крадком выціралі вочы. Але гэта, як высветлілася, не паўплывала на аб'ектыўнасць.

Парада Анастасіі Гулак дзецям падалася, на першы погляд, нечаканаю: «Не пішыце шмат! Пішыце толькі тады, калі зразумелі, што знайшлі словы, якія найбольш дакладна выражаюць вашыя пачуцці. Паэзія, пісанне вершаў – такая справа, на мой погляд, якую можна параўнаць са спатканнем. Са спатканя лепей сысці крышачку раней, каб засталося нешта недасказанае. Якраз дзеля гэтага недасказанага захочацца сустрэцца яшчэ раз. Так і з вершамі. Не спяшайцеся сказаць усё і адразу. Няхай гэта будзе адзін верш, але той, які выспеў менавіта ў вашай душы. Непадобны ні на які іншы».

**Ганна ГРЫБ**

## Гарадскія сядзібы сыходзяць у нябыт

Мінская мэрыя вырашыла, што старыя дамы прыватнага сектару не ўпісваюцца ў генеральны план Мінска з прылеглымі тэрыторыямі. У сувязі з гэтым у Мінгарвыканкаме прынята рашэнне «Аб адсяленні і зносе індывідуальных сядзібных жылых дамоў па горадабудаўнічых умовах».

На працягу трох гадоў – з 2003 па 2006 – з гарадской карты знікнуць асобныя пабудовы ў межах ландшафтна-рэкрацыйных зонаў: «Парк імя 900-годдзя Мінска», «Парк Перамогі», «Чыжоўскае вадасховішча», «Парк «Серабранка», водна-зялёных зонаў рэчак Свіслач, Лошыца, Мышка, Сляпянскай сістэмы, а таксама ў раёне другога гарадскога кальца і вуліцы П.Глебкі.

Работы будуць выконвацца за кошт гарадскога бюджэту і сродкаў долевага ўдзелу ў развіцці гарадской інфраструктуры заказчыкаў (інвестараў) і кампенсацыі ўсярэднянага па горадзе зносу жыллёвага фонду ў памеры шасці працэнтаў.

Грамадзяне, чые дамы патрапяць пад знос, атрымаюць новае жытло. Інвестары, трэба думаць, атрымаюць капітальныя пабудовы ў экалагічна чыстых раёнах.

**Юрась ТЫЧКА**



**Хто паверыць, што тут некалі (10 год таму) была мінская бісквітная фабрыка (помнік архітэктуры), стаялі дамкі, садочкі... Цяпер чыста і ціха, як у пустыні, – згодна з генпланам.**

## Шкала здароўя

У сярэднім 62 працэнты жыхароў краінаў СНД ацэньваюць свой стан здароўя як «добры» і 35 – як «дрэнны». Гэта высветлілася ў ходзе міжнароднага даследавання, якое праводзілася напрыканцы 2002 года сярод грамадзянаў Арменіі, Беларусі, Грузіі, Казахстана, Малдовы, Расіі і Украіны. У кожнай з рэспублік апытваліся не меней чым 2.000 рэспандэнтаў ва ўзросце 18 гадоў і старэйшых.

Па звестках кіраўніка Цэнтра сацыялагічна-палітычных даследаванняў БДУ Давіда Ротмана, найбольшая колькасць тых, хто ацэньвае сваё здароўе як «добрае», зафіксавана ў Кіргізіі (82 працэнты) і Казахстане (73 працэнты). Некалькі меней «здаровых» адзначана ў Грузіі (67 працэнтаў) і ў Расіі (61 працэнт). Аналагічна характарызуюць сваё здароўе 58 працэнтаў рэспандэнтаў з Арменіі, 57 працэнтаў – у Беларусі, 54 працэнты – у Малдове. На Украіне ацэньваюць сваё здароўе як «добрае» 49 працэнтаў апытаных. Столькі ж апытаных грамадзянаў Украіны расцэньваюць сваё здароўе як «дрэннае». У Малдове пачуваюцца «дрэнна» 43 працэнты рэспандэнтаў, у Арменіі – 41 працэнт. У Беларусі пра «дрэнны» стан здароўя заявілі 39 працэнтаў апытаных, у Расіі – 36 працэнтаў. Лепшая сітуацыя ў Грузіі – 28 працэнтаў адказалі, што іх стан здароўя «дрэнны». У Казахстане такіх было 25 працэнтаў, а найменей у Кыргызстане – 17 працэнтаў.

**БелаПАН**

## Новыя ПДР

З 1 ліпеня на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь уводзяцца новыя Правілы дарожнага руху, якія былі зацверджаны Пастановай урада № 1850 ад 31 снежня 2002 года. Прыняцце новых правіл ПДР выклікана зменамі заканадаўства: ужо некалькі гадоў дзейнічае Указ аб абавязковым страхаванні грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў, набыў сілу закон «Аб дарожным руху», прыняты новыя нарматыўныя дакументы па перавозцы небяспечных грузаў, аб дарожных знаках, шэраг правілаў Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН ў частцы забеспячэння бяспекі дарожнага руху.

Згодна з новымі ПДР, у кіроўцаў механічных транспартных сродкаў стала болей абавязкаў. Правілы ўводзяць шэраг новых тэрмінаў і паняццяў. У цэлым новыя ПДР скіраваныя на павелічэнне бяспекі на дарогах. Што будзе ў сапраўднасці – хутка даведаемся.

# Не стала прарока ў Айчыне

Другі тыдзень, як нас пакінуў Васіль Быкаў. Боль страты, як усведамленне непапраўнага, з кожным днём будзе нарастаць. Цяжка змірыцца з тым, што мы больш не пачуем яго мудрае, праўдзівае, справядлівае слова пра наша жыццё, што не зможам убачыць новыя творы. Як жыць з гэтым пачуццём роспачы, безвыходнасці? У нас толькі адно выйсце – паспрабаваць наноў зразумець і асэнсаваць творчасць і жыццёвыя ўрокі пісьменніка.

Не адно пакаленне беларускіх школьнікаў вырастала на кнігах Васіля Быкава. Пытанне выбару, якое паўставала перад героямі яго кніг у зусім няпростых жыццёвых абставінах, рана ці позна паўстае перад кожным чалавекам. І кожны павінен на яго адказваць: з кім ты, на чыім баку, каму служыш? І варта цвёрда запомніць: схібіўшы аднойчы, мусіш бясконца падаць у бездань. Ніхто не дапаможа табе ўзняцца, калі ты сам не здолееш перарваць ланцуг рабства, хлусні і фальшу. Але калі чалавек выбірае шлях Праўды, ніхто таксама не гарантуе яму спакойненькага і сытнага жыцця. Праўду трэба заўсёды адстойваць, за праўду даводзіцца змагацца ўсюды, ва ўсім свеце. Але без гэтага не здабыць сапраўднай павагі і пашаны.

Васіль Быкаў усім сваім жыццём сцвярджаў існаванне выбару і права на яго. Яго жыццё і творчасць не разыходзіліся, а ўзаемапацвярджаліся. (Чаго, на жаль, мала сустракаецца ў многіх нашых пісьменнікаў, артыстаў і іншых творчых асобаў.) Яго прынцыповая пазіцыя, грунтаваная на агульначалавечай хрысціянскай маралі, абвостранае пачуццё справядлівасці заўсёды выклікала агрэсіўную рэакцыю недэмакратычнага кіраўніцтва. Яго разуменне сваёй далучанасці і асабістай адказнасці за ўсё, што адбываецца ў краіне, гучала поўным дысанансам з пануючым бюракратычным падыходам. Так было ў часы Савецкага Саюза пасля публікацый праўдзівых сведчанняў пра ваенную рэчаіснасць. Так было падчас перабудовы пасля чарнобыльскай катастрофы, калі ў поўным зацішшы прагучала трывожным набатам слова Быкава і Адамовіча пра смяротную небяспеку для беларусаў . Так, на жаль, адбывалася і ў апошнія некалькі год у незалежнай Беларусі, калі былі знішчаны ўсе неабходныя ўмовы для росквіту сапраўднай творчай індывідуальнасці.

Многія задаюць сабе пытанне: ці мог іначай ставіцца да жыцця і да ўсіх падзей ВасільБыкаў, ці мог зрабіць іншы выбар? Чалавек, які прайшоў вогненнымі дарогамі вайны, які ведаў сапраўдную цану чалавечых учынкаў?! Пісьменнік, які разумеў сутнасць жыцця як безумоўнае і бескампраміснае служэнне Праўдзе?! Зрабіць іначай – для яго азначала б перакрэсліць усё, што ён пісаў, гаварыў, у што цвёрда верыў, у чым быў перакананы. Зрабі ён іначай – і не было бы ў нас Васіля Быкава.



Чаму ён з’ехаў з Беларусі? А ці мог ён спакойна глядзець на тое, што рабілася і робіцца на радзіме: як здзекуюцца з нацыянальных святынь, зневажаюць на самым высокім дзяржаўным узроўні родную мову?! Не маючы магчымасці перашкодзіць, спыніць гэты нечуваны працэс маральнай дэградацыі, Васіль Быкаў паспрабаваў адмежавацца ад яго. Ён не хацеў ды і не мог быць маўклівым сузіральнікам і пасіўным удзельнікам поўнага знішчэння незалежнасці сваёй краіны. Такая грамадзянская пазіцыя знайшла разуменне і падтрымку ва ўсіх цывілізаваных дзяржавах. Грамадзянскія супольнасці многіх краін лічылі за гонар праявіць салідарнасць і дапамагчы нашаму вядомаму пісьменніку. Тым самым, яны выказвалі салідарнасць з намі, з беларускім народам.

Бог забраў ад нас Васіля Быкава. Але спачатку Бог падарыў нам, беларусам, вялікага Чалавека. І мы павінны навучыцца ўспрымаць такіх людзей, як адзнаку Божага дару, абранасці і неабходнасці нашай прысутнасці ў гэтым свеце. Але прысутнасці менавіта такімі, якім быў наш сапраўдны народны пісьменнік.

Васіль Быкаў быў і застаецца нашым народным сумленнем, нашым нацыянальным гонарам. Ён пайшоў ад нас, але ён вельмі любіў сваю радзіму і ўсіх нас. Бо здолеў зрабіць усё, каб зменшыць наш боль, каб даць нам магчымасць па-людску развітацца і ў апошні раз папрасіць прабачэння за тое, што не зрабілі або зрабілі не так. Час пакажа: ці добра зразумелі мы яго ўрокі, ці вартыя мы мець сваіх прарокаў і апосталаў.

**Алена АНІСІМ**

**Васіля Быкава праводзіў у апошні шлях просты беларускі народ – галоўны на сваёй зямлі носьбіт улады, сумлення і гонару, жывой памяці. Увасобленая ў ім беларуская дзяржава ўшанавала свайго вялікага сына шчырымі слязамі развітання, пачуццямі сардэчнай роспачы, любові і ўдзячнасці**









# Выпускнік і беспрацоўе

Штогод у чэрвені юнакі і дзяўчаты развітваюцца са школай. Гэта складаны час не толькі для маладых людзей, але і для іх бацькоў. І цяжка вызначыць, хто з іх хвалюецца больш.

Менавіта зараз стаіць пытанне, які шлях выбраць: пайсці вучыцца далей ці спрабаваць шукаць працу. І ці хопіць школьных ведаў, а часам і матэрыяльных сродкаў, каб працягнуць вучобу ва універсітэце, акадэміі або каледжы. Тым больш, што апошнія гады дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы змяншаюць колькасць студэнтаў, якія вучацца за сродкі бюджэту, усё часцей практыкуюць платнае цалкам або часткова навучанне.

У верасні ўстановы адукацыі па традыцыі будуць падводзіць вынікі сваёй працы – падлічваць, колькі выпускнікоў школ сталі студэнтамі. І тут у кожнай школе розныя вынікі. Вось вынікі мінулага года.



### Сталічная школа № 50

з паглыбленым вывучэннем матэматыкі ўжо год працуе як матэматычная гімназія. Былыя выпускнікі школы вядуць сюды сваіх дзяцей. Тут трывалыя традыцыі атрымання добрых ведаў. На занятькі дзеці ездзяць з усіх канцоў горада, зручна, што побач станцыя метро. У мінулым годзе школу закончылі 68 вучняў – і ўсе яны сталі студэнтамі. Большасць паступілі ў Беларускі дзяржаўны універсітэт і Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. Некалькі чалавек пайшлі ў іншыя ВНУ. У гэтым годзе таксама шмат хто заканчвае гімназію ўжо фактычна будучы студэнтамі – перамаглі на алімпіядах або паспяхова напісалі тэсты.

### Маларыта

У раённым цэнтры Маларыта тры сярэднія школы. У асноўным выпускнікі паступаюць у два універсітэты, што ў Брэсце, бо гэта блізка ад дома. У іншыя гарады мала хто едзе. Летась СШ № 1 закончылі 46 чалавек. Трэба сказаць, што класы тут профільныя і таму невялікія па колькасці. 24 вучні сталі студэнтамі, 6 чалавек паступілі на падрыхтоўчыя аддзяленні, яшчэ 9 – пайшлі ў сярэднія спецыяльныя ўстановы. Астатнія пачалі працаваць. За працаўладкаваннем выпускнікоў уважліва сочыць мясцовая ўлада – і гэта добра. Бо маладым людзям, не маючы прафесіі і вопыту, цяжэй знайсці месца працы.

### Абітурыенты

Сёлета сярэднюю школу ў рэспубліцы закончылі 93.900 выпускнікоў, з іх 87.537 – дзённую форму навучання. І амаль усе тут жа сталі абітурыентамі. Але далёка не ўсім пашчасціць, вытрымаўшы ўступныя іспыты, атрымаць у верасні жаданы студэнцкі білет.

22 ВНУ Міністэрства адукацыі гатовыя ў гэтым годзе прыняць у даволі шматлікую армію студэнтаў 23.468 чалавек, з іх на дзённую форму навучання – 17.208 чалавек. Асобныя міністэрствы ў сваёй сістэме маюць ВНУ, прыкладам, Міністэрства культуры – Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры ў Мінску. Яшчэ безліч камерцыйных навучальных устаноў як у сталіцы, так і ва ўсіх абласных гарадах і ў буйных раёнах.

Традыцыйна высокія конкурсы ў Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі, Беларускі дзяржаўны медыцынскі універсітэт і інш. Часам на адно месца прэтэндуюць да дзесяці чалавек. Некаторыя абітурыенты, каму адразу не пашанцавала, за лета здаюць уступныя экзамены па некалькі разоў. Але калі пастаўлена нейкая мэта, то да яе трэба імкнуцца настойліва і ўпарта. Бо часам шлях, выбраны пасля заканчэння школы, істотна ўплывае на ўсё астатняе жыццё.

Калі спроба стаць студэнтам заканчваецца паспяхова, то яшчэ на чатырыпяць гадоў праблема «чым займацца» вырашана.

У той жа час няма ніякай гарантыі, што, нават атрымаўшы дыплом аб вышэйшай адукацыі, чалавек будзе забяспечаны працай, што дазволіць яму дастойна жыць у матэрыяльным плане.

### Працаўладкаванне

Працэсы павелічэння ўзроўню беспрацоўя цесна звязаны з сістэмай адукацыі. З аднаго боку, выступае нізкі ўзровень рэакцыі адукацыйных інстытутаў на змены на рынку, з другога – нізкі ўзровень прафесійнай адукацыі і перакваліфікацыі. Гэта абумоўлівае выразнае структурнае беспрацоўе.

Сярод тых, хто не мае працы, кожны другі – ва ўзросце да 30 гадоў. Армію беспрацоўных штогод папаўняюць выпускнікі школ, зараз гэта ўжо дзесяткі тысяч. Акрамя гэтага, намецілася тэндэнцыя рэгістрацыі беспрацоўных з ліку выпускнікоў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, тэхнікумаў-каледжаў і ВНУ. Больш за 70% маюць сярэднюю або базавую адукацыю, кожны чацвёрты – вышэйшую і сярэднюю спецыяльную.

Так, у Мінскім гарадскім цэнтры занятасці больш чым 500 эканамістам з вышэйшай адукацыяй змаглі прапанаваць каля дзесяці вакансій, у юрыстаў конкурс быў 100 чалавек на адно працоўнае месца. Цяжкасці з пошукам працы маюць бухгалтары, сакратары, справаводы.

Асноўным матывам рэгістрацыі з'яўляецца не столькі спадзяванне на атрыманне нармальнага, адэкватна аплачваемага працоўнага месца, колькі магчымасць бясплатнай перакваліфікацыі. Праблема беспрацоўя безумоўна закранае кожнага жыхара краіны. Нават тыя, хто сёння маюць добрую высокааплачваемую працу, не застрахаваныя ад таго, што ўжо заўтра могуць стаць беспрацоўнымі.

### Прычыны

Прычын беспрацоўя ў Беларусі шмат – гэта пастаянны спад нацыянальнай вытворчасці, неспрыяльны інвестыцыйны клімат і г.д. У такіх умовах немагчыма стварэнне новых працоўных месцаў. Патрэбны комплексныя рэформы для ўсіх галін гаспадаркі. З другога боку, пазіцыя «зачыненых дзвярэй» і яўная ізаляцыя ад заходніх суседзяў прыводзіць як да фінансавага голаду (адсутнасць інвестыцый), так і да паступовай дэградацыі навукова-тэхнічнага патэнцыялу.

Афіцыйна беспрацоўны – чалавек, які стаіць на ўліку ў службе занятасці. Калі кажуць, што ўзровень беспрацоўя складае 2,5%, то гэтая лічба адпавядае афіцыйнаму азначэнню. Здавалася б, вельмі добры паказчык. А з пункту гледжання рэальнасці?

– Ці лічыцца беспрацоўным той, хто па нейкіх прычынах не дайшоў да цэнтра занятасці, але нідзе не працуе і не мае даходаў?

– Ці лічыцца беспрацоўным той, хто, працуючы на дзяржаўным прадпрыемстве, знаходзіцца ў адпачынку без захавання заробку ў сувязі з тым, што прадпрыемства часова спыніла працу?

– Ці лічыцца беспрацоўным той, хто за сваю працу атрымлівае заработную плату, якая не забяспечвае пражытачнага мінімуму?

Якая ж больш-менш рэальная лічба беспрацоўя? Складана адказаць на такое пытанне. Некаторыя эксперты называюць 40–50%. Мала верагодна, што гэтыя лічбы атрыманы на падставе сур'ёзных сучасных сацыялагічных даследаванняў. Аднак выглядае гэта больш праўдападобна, чым 2,5%.

**Леанарда МУХІНА**

# Беларускае школьніцтва

Вялікую ролю ў нацыянальным адраджэнні беларусаў у пачатку XX стагоддзя адыграла Вільня – калыска беларускай культуры і духоўнасці. Менавіта тут у 1906 годзе нарадзілася першая беларуская газета «Наша доля», а затым – «Наша ніва», якія гуртавалі вакол сябе ўсю свядомую Беларусь. У Вільні сталі стварацца шматлікія арганізацыі рэлігійнага, навуковага, мастацкага, школьнага накірункаў, пачалі ўзнікаць беларускія школы.

Пачатак сусветнай вайны ў 1914 годзе перапыніў дзейнасць беларускіх адраджэнцаў, але пасля заняцця немцамі ў 1915 годзе Заходняй Беларусі і Вільні беларуская праца пачала ізноў развівацца. Як пішуць гісторыкі Я.Найдзюк і І.Касяк, «немцы дазвалялі закладаць афіцыйна беларускія школы, аб чым пад расейскаю ўладаю не можна было і думаць, але над беларусамі вісеў яшчэ польскі і расейскі праклён ды прыніжэнне беларускай мовы і культуры, якую звалі мужыцкаю, ды не дапушчалі ў грамадскае, культурнае і палітычнае жыццё».

Беларускіх школ у Заходняй частцы Беларусі за час нямецкай улады ў 1918 годзе было 450. На Віленшчыне было больш як 200 народных школ і настаўніцкая семінарыя ў Барунах.

Згодна з Рыжскім трактатам, да Польшчы была далучана беларуская тэрыторыя (болей за 100 тысяч кв. км.). З 4 млн. людзей, што тут жылі, беларусамі былі 3,5 млн. чалавек, у большыні сяляне. Становішча беларусаў адразу стала рэзка пагаршацца. Не зважаючы на колькасць беларускага насельніцтва, яго ў Польшчы залічылі да нацыянальных меншасцей. Вядома, што паводле Версальскага трактату (ад 28 чэрвеня 1919 г.) польская дзяржава забяспечвала беларусам свабоды, маёмасці, рэлігійных пераканаццяў, абрадаў, ужыванне роднай мовы ў судах, навучанне ў роднай мове, арганізацыю прыватных школаў. Усе навучальныя ўстановы мелі аднолькавыя правы карыстацца дапамогай з дзяржаўнага бюджэту. Польская канстытуцыя, прынятая 20 сакавіка 1921 г., пацвярджала гэта самае. Аднак польскія шавіністы рабілі ўсё магчымае для ліквідацыі беларускага духу. Так, урад Грабскага выдаў «моўны закон», які зусім абмежаваў магчымасці адчынення беларускіх школ. Калі беларусы падавалі дэкларацыю на адчыненне школы, то на іх сыпаліся розныя кары: штрафы, арышты, біццё і г. д.

З 350 пачатковых школ ужо ў першы год польскія ўлады зачынілі толькі на Гарадзеншчыне 153 школы і Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, а загадам у лістападзе 1921 года было забаронена ўжываць у школах беларускую мову не толькі як мову навучальную, але нават як дапаможную.

На Віленшчыне польскія ўлады зліквідавалі ўсе народныя школы ці перапаравілі іх у польскія. На беларускіх землях у 1922 годзе беларускіх дзяржаўных школ засталося толькі 47, наступны навучальны год пачалі ўжо 29 беларускіх школ, а ў 1924/1925 навучальным годзе беларускіх школ не стала. К зліквідаваным настаўніцкім семінарыям у Барунах і Свіслачы далучыліся беларуская гімназія ў Горадні, Будславе, Гарадку каля Маладзечна, Нясвіжы. Беларускіх настаўнікаў вывезлі быццам для павышэння кваліфікацыі ў Кракаў, потым іх разаслалі на працу ў школы на этнічную тэрыторыю Польшчы, а ў школы на Беларусь прыслалі палякаў, якія не ведалі беларускай мовы. Тых настаўнікаў, хто дамагаўся працы ў беларускіх школах, зусім звальнялі з працы.

Ужо ў 1928 годзе існавалі беларускія гімназіі толькі ў Вільні, Навагрудку, Радашковічах і Клецку, але і над імі вісела ліквідацыя. Гэтыя гімназіі не мелі правоў дзяржаўных польскіх школ, іх выпускнікі не мелі права паступаць у польскія універсітэты без спецыяльных экзаменаў.

На ўсходніх крэсах у 1928 годзе было 25 беларускіх школ і 44 беларуска-польскія. Прайшоў невялікі час і амаль усе школы, а таксама гімназіі ў Клецку, Радашковічах і Навагрудку ды настаўніцкая семінарыя ў Вільні былі гвалтоўна зліквідаваны. Засталася толькі адна Віленская беларуская гімназія, якая ў 1937 годзе перастала быць самастойнай школай, а стала філіяй польскай гімназіі імя Ю.Славацкага.

У 1944 годзе бальшавікі зачынілі беларускую гімназію ў Вільні, гэтым разам была ліквідавана апошняя беларуская школьная ўстанова. На ўсёй прасторы Віленшчыны не засталося ніводнай культурнай або навучальнай установы, дзе беларусы маглі б рэалізаваць свае культурныя ці адукацыйныя патрэбы.

Дзіўна, што такім нацыянальным меншасцям у савецкай Літве, як рускім і палякам, было дазволена мець свае школы і іншыя навучальныя ўстановы, а трэцяя па колькасці нацыянальная меншасць – беларусы – была пазбаўлена гэтага.

У пасляваенны час была вынішчана беларуская інтэлігенцыя Віленшчыны, вынішчана мова, вынішчалася



культура. Беларусы ў Літве ўзмацняла паланізаваліся і русіфікаваліся. Гэтаму спрыяла і палітыка ўрадаў Літвы і Беларусі.

Адраджэнскі рух, які ўзнік на развале камуністычнай імперыі ў канцы 1980-х гадоў, даў надзею і беларусам Літвы. Старая, «недабітая», віленская беларуская інтэлігенцыя пачала гуртавацца і ствараць культурна-нацыянальныя арганізацыі. У хуткім часе, пасля стварэння беларускіх суполак, узнікла пытанне вырашэння адукацыйных спраў. Імёны спадароў Лявон Луцкевіч, Леанід Кароль, Хведар Нюнька і іншыя дамагліся стварэння катэдры беларускай мовы на факультэце славістыкі Віленскага педагагічнага універсітэта ў 1991 годзе. З Беларусі былі запрошаны навукоўцы Т.Каротчанка, А.Папова, Ю.Шаўцоў, Л.Плыгаўка, і па ініцыятыве гэтай ка-

# «Дапаможам маладым!»

***Паказальныя вынікі лакальнага апытання ў мінскім мікраараёне***

**Напрыканцы мінулага года газета «Новы Час» № 3 надрукавала анкету «Дапаможам маладым» для апытання моладзі буйнога мінскага мікраараёна «Серабранка» па праблемах навучання, працы, працаўладкавання і заняткаў у вольны час. Ініцыятыва называлася «Серабранка-2003». Кіраўніком праекта выступіў старшыня ТБМ імя Францішка Скарыны вядомы гісторык Алег Трусаў.**

На працягу лютага-сакавіка сябры ініцыятыўнай групы распаўсюдзілі некалькі тысяч анкет сярод жыхароў Серабранкі. Таксама раздаваліся канверты з маркамі для напісання прапановаў і заўваг па анкеце. Непасрэдна ў мікраараёне, падчас сустрэч з жыхарамі, распаўсюджваліся газеты з анкетай. Сябры групы сустракаліся з вучнямі і выкладчыкамі сярэдніх школ № 2 і 153, ПТВ № 12 і энергакаледжа

Анкета ўтрымлівала 13 пытанняў:

1. Імя і ўзрост
2. Вучуся (у школе, ПТВ, каледжы, ВНУ)
3. Паступіў (ла) у
4. Працую (кім)
5. Не працую на працягу
6. Не магу знайсці працу па душы з добрымі ўмовамі
7. Хацелася б працаваць (кім, дзе)
8. Колькі, на Ваш погляд, трэба зарабляць маладому несямейнаму чалавеку?
9. Дзе Вы болей праводзіце вольны час (у бібліятэцы, за камп'ютэрам, на дыскатэках, на вуліцы з сябрамі)?
10. Вашы блізкія сябры (удачліва працуюць, не могуць знайсці працу, вучацца, патрапілі ў нядобрую кампанію)?
11. Дзе б хацелася жыць у выпадку вольнага выбару?
12. Ці хацелі б вучыцца ў Беларускім нацыянальным універсітэце з навучаннем на беларускай мове?
13. Што можна змяніць у Вашым жыцці, каб яно палепшылася?

Адказы далі 173 рэспандэнты. З іх: 146 анкет – ад вучняў школ мікраараёна, 10 – ад навучэнцаў ПТВ і 17 – ад студэнтаў каледжа. Большасць апытаных мае ўзрост 17 (43%) і 16 (29%) гадоў. Сярод 26 будучых прафесій, якія хочуць мець апытаныя, на першым месцы ідзе праца перакладчыка (12%), юрыста (10%) і дырэктара (8%). Цікава, што стаць настаўнікам, міліцыянерам ці прадпрымальнікам пажадала толькі па адным чалавеку.

Большасць маладых людзей лічаць, што каб прыстойна пражыць маладому несямейнаму чалавеку ў Мінску, трэба мець заробкі ў межах да 500 тысяч рублёў у месяц (82%). Аднак запатрабаванні 18% апытаных сягаюць за лічбу 500 тысяч.

Свой вольны час моладзь Серабранкі бавіць у асноўным на вуліцы (46%), за кампутарам (26%), на дыскатэках (11%) і ў бібліятэцы (10%). Толькі адзін чалавек працаваў у свой вольны ад вучобы час! Аднак працуюць з ліку сяброў апытаных 23%, не могуць знайсці працу 3%, а вучацца 71%.

У выпадку вольнага выбару месца жыхарства ў Беларусі згодны жыць 60% апытаных, а 40% - за мяжой. Сярод замежных краін першае месца займае Канада, другое – Галандыя і Расія, трэцяе – Францыя, Швейцарыя і ЗША.

У Беларускім нацыянальным універсітэце з навучаннем па-беларуску выказалі жаданне навучацца 62% апытаных. Значыць, беларуская мова нашу моладзь не палохае.

На апошняе пытанне пра тое, што трэба зрабіць, каб жыццё апытанага палепшылася, 24% адказалі, што для гэтага трэба паступіць у ВНУ, 18% патрабуюць палепшыць іх матэрыяльнае становішча, а 16% вылучаюць палітычнае патрабаванне – змену існуючай улады. 11% хочуць, каб іх бацькі болей зараблялі, а 10% наогул нічога не хочуць мяняць дзеля паляпшэння ўласнага жыцця.

Аналіз анкеты паказвае, што паколькі на тэрыторыі мікраараёна адсутнічаюць прадпрыемствы, знайсці працу вельмі цяжка. Ёсць значныя праблемы з вольным часам моладзі, бо буйныя культурна-асветніцкія ўстановы, за выключэннем бібліятэкі, таксама адсутнічаюць. Таму невыпадкова, што амаль палова моладзі Серабранкі бавіць свой вольны час на вуліцы. Значная частка апытаных не хоча жыць на Беларусі, бо не бачыць перспектывы добрых грашовых заробкаў. Не выпадкова, што самая модная прафесія - перакладчык, бо без ведання мовы добрую працу за мяжой не знойдзеш. Уражвае, што 26% моладзі вольны час праводзіць за кампутарам, бо гэта таксама неабходна для працы за мяжою.

Часы беларускага адраджэння 80–90-х гадоў мінулага стагоддзя не прайшлі марна, і таму большасць моладзі жадае вучыцца на роднай мове, што цалкам адпавядае вынікам тэлефоннага галасавання на тэлеперадачы «Выбар» на АНТ. Сярод 28 тысяч грамадзян Беларусі, што прагаласавалі па тэлефоне, 65% выказаліся ў падтрымку развіцця беларускай мовы.

## Канфесіі

# Паплечнікі

У Мінску падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Беларускім экзархатам Рускай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхата. Адно з галоўных пытанняў, злучаных з гэтай падзеяй – ці з`явяцца ў школе папы?

Свае подпісы пад дакументам паставілі старшыня Савета Міністраў Беларусі Генадзь Навіцкі і патрыяршы экзарх мітрапаліт Філарэт. На цырымоніі падпісання пагаднення мітрапаліт Філарэт заявіў, што не бачыць у гэтым дакуменце «выключнага становішча» праваслаўнай царквы, якая, па яго словах, зусім «не імкнецца быць дзяржаўнай».





Рэферэнт па юрыдычных пытаннях Мінскай эпархіяльнай управы Андрэй Алешка, адзін з аўтараў гэтага дакумента, не хавае, што гэтае пагадненне надае вялікія прэферэнцыі праваслаўнай царкве. Галоўная мэта пагаднення – прасоўваць наперад царкоўна-дзяржаўнае супрацоўніцтва. Цяпер прадстаўнікам Праваслаўнай царквы будзе адкрыты шырокі доступ у навучальныя ўстановы, армію, шпіталі, месцы зняволення. Чаму кіруючыя колы краіны так зацікаўленыя ў супрацоўніцтве з экзархатам? Адказам служаць тэзісы, што прагучалі на вядомай ідэалагічнай нарадзе ў сакавіку бягучага года: «Раней мы змагаліся з царквой, сёння царква патрыятычна скіравана. Яна нас падтрымлівае. Давайце і мы ў гэтым плане будзем падтрымліваць».

У Камітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцяў супакойваюць – да ўвядзення інстытута праваслаўных капеланаў у войску, як і да абавязковага вывучэння праваслаўнай рэлігіі ў школах справа пакуль не дойдзе. Намеснік старшыні Камітэту Уладзімір Ламека заяўляе, што пагадненне ніяк не зменіць свецкага характару беларускай дзяржавы. Аднак там жа кажуць, што сумесныя праграмы праваслаўнай царквы з міністэрствамі адукацыі, аховы здароўя, унутраных справаў, сацыяльнай абароны, вайсковым ведамствам – толькі пачатак супрацоўніцтва.

Прэзідэнт самага буйнога ў краіне аб'яднання евангельскіх вернікаў, Саюза ХВЕ Сяргей Хоміч мяркуе, што Саюз таксама хацеў бы заключыць дамову з дзяржавай і ўклад пяцідзесятнікаў у маральнае выхаванне грамадства быў бы не меншы, прынамсі, яны агітуюць за цвярозы лад жыцця. Але пытанне аб падпісанні канкардату з іншымі канфесіямі пакуль што не стаіць на парадку дня.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# і выхаванне ў Літве

федры пачалося стварэнне беларускіх школ.

Беларуская кафедра пачала працу са стварэння банка дадзеных аб вучнях-беларусах школ Вільні і Віленшчыны, настаўніках-беларусах. Арганізатары выйшлі на настаўнікаў-энтузіястаў, на мясцовыя ўлады, правялі сустрэчы з бацькамі і дзецьмі і дамагліся адкрыцця ўжо ў 1992 годзе пры 13-й сярэдняй школе 1–4 беларускіх класаў, а на Звярынцы ў школе № 17 сталі вучыцца 5–11 класы. Напоўненасць класаў была малая, але сустрэчы і гутаркі з настаўнікамі-беларусамі віленскіх школ далі свае вынікі – класы беларускія сталі папаўняцца.

Паўстала пытанне аб будынку школы. ТБК спрабавалі вярнуць школе былы будынак беларускай гімназіі, які знаходзіцца ў цэнтры горада, у прэстыжным месцы, але мясцовыя ўлады на гэта не пайшлі, не далі яны які-небудзь прыстасаваны будынак у зручным месцы. Справа ў тым, што беларусы пражываюць у Вільні і ваколіцах не кампактна, звычайна ў новых раёнах горада і таму яны губляюць шмат часу, каб давезці дзяцей у школу. Улады аддалі для школы будынак дзіцячага садочка на далёкай ускраіне ў Каралінках побач з тысячамі гаражоў. Будынак садка не быў прыстасаваны да заняткаў.

Вядома, што гістарычная радзіма павінна клапаціцца і падтрымліваць адукацыйныя намаганні дыяспар, павінна быць матэрыяльная дапамога, а таксама духоўная. Павінна ведаць, што нацыянальная адукаваная моладзь будзе ўзаемаабагачаць культуры, пашыраць эканамічныя кантакты, шчыра панясе ў свет веды пра Беларусь, яна будзе карыснай і для краіны пражывання, і для Бацькаўшчыны.

Сённяшні эканамічны, палітычны і культурны стан Беларусі негатыўна адбіваецца і на школьніцтве дыяспар. У адносінах да роднай мовы, нацыянальнай культуры, да ўсяго беларускага, на вялікі жаль, сёння ў Беларусі такое ж стаўленне, якое паспыталі беларусы Літвы за польскім часам, а раней і за расейскім, ды і за камуністычным у пасляваенны перыяд.

У дыяспарах вельмі хутка ідзе працэс асіміляцыі, асабліва ў беларускім асяроддзі. Гэта пацвярджае другое – трэцяе пакаленне беларускіх эмігрантаў. Нізкая нацыянальная самасвядомасць прыводзіць да страты сувязей шмат каго з беларусаў са сваёй радзімай. У такіх беларусаў, якія бачаць адносіны ўрада да сваіх грамадзян і да свайго роднага беларускага, няма жадання вучыць сваіх дзетак на роднай мове, пасылаць іх у беларускую школу. Ніяк нельга параўнаць адносіны Польшчы да палякаў, літвы і літоўцаў да літоўскай дыяспары ў Польшчы і ў Беларусі.

У Вільні беларуская школа (ёй далі імя Францыска Скарыны) працуе ўжо 10 год, яна мае 12 класаў і каля 170 вучняў, зрабіла некалькі выпускаў. Школа беларуская сярэдняя ў Літве адзіная. Адна на 60.000 беларусаў, якія сёння жывуць у Літве. Цікава тое, што ўсе гады існавання гэтай школы самая галоўная праблема для яе – набор вучняў 1 класа. З вялікімі высілкамі набіраецца каля 10 чалавек. Быў зроблен захад на стварэнне базы школы – адкрыццё беларускага дзіцячага садочка. Атрымалі дазвол на адкрыццё (стварэнне) беларускай групкі пры рускамоўным садку. Але ў гэтую групку болей як 7 дзетак не прыйшло.

Паміж уладамі Беларусі і Літвы былі падпісаны адукацыйныя пагадненні, якія прадугледжваюць адкрыццё нацыянальных школ, атрыманне вышэйшай адукацыі. Дзякуючы пагадненню беларускія дзеці Літвы атрымліваюць штогод 20 месцаў у вышэйшых навучальных установах Беларусі. Са школы імя Скарыны звычайна працягваюць вучобу ў Беларусі менш паловы дадзенай лічбы, астатніх дабіраюць з іншых літоўскіх школ – толькі б ведалі расейскую мову і нехта са сваякоў меў бы беларусія карані. Жаданне мець дыплом аб вышэйшай адукацыі якраз і падштурхнула вучняў 10–11 класаў іншых школ ісці ў беларускую школу, а потым «зялёнай» дарогай у беларускія універсітэты. Але ці ўзгадуюцца з гэтай моладзі нацыянальнасвядомыя беларусы - вялікае пытанне? .

Беларуская школа імя Скарыны мае і сёння нейкую дапамогу ад Беларусі праз беларускую амбасаду, якая праз дырэкцыю назірае за духам школы, літоўскі ж бок (бо школа дзяржаўная) сочыць, як ідзе працэс літуанізацыі і інтэграцыі. Зразумела, што школа павінна паводзіць сябе дыпламатычна. Беларускую мову ў ёй можна пачуць у пачатковых класах, на ўроках беларускай мовы, матэматыкі, спеваў і мастацтва. Літоўская гучыць на ўроках літоўскай мовы (ёй адведзена болей гадзін, чым роднай), геаграфіі, паліталогіі, гісторыі, фізікі, фізкультуры і іншых, а на перапынках і каля школы – расейская. А вось нацыянальную беларускую сімволіку ў школе можна было бачыць да 1994 года, а потым толькі ў дзень 25 сакавіка ў актавай зале. Школа ў Літве (і беларуская таксама) – месца працы, якую тут атрымалі, а працай трэба даражыць.

Пасля заканчэння школы і вышэйшай установы моладзь мае праблемы з уладкаваннем на працу. Некалькі вучняў, якія маюць дыпломы беларускіх ВНУ і літоўскіх, уладкаваліся ў школу імя Скарыны, у беларускія класы Вісагінаса і на беларускую 15-хвілінную праграму радыё і тэлебачання Літвы, ахоўнікамі ў фірмах. Беларускія выхаванцы пакуль што не запатрабаваныя дзяржавай. Усё гэта разам узятае не пашырае беларускае школьніцтва ў Літве.

Нават у беларускім асяроддзі Вісагінаса існуе толькі нядзельная беларуская школка і 2–3 класы пры расейскай сярэдняй, а ў такіх «беларускіх» мясцінах, як Друскенікі, Свянцяны, Новая Вільня, няма нават і нядзельных школ.

Палепшыць беларускае школьніцтва ў Літве зможа змяненне культурнай, грамадска-палітычнай і эканамічнай сітуацыі на Бацькаўшчыне. Калі Беларусь пакажа дзяржаўную зацікаўленасць у захаванні роднай мовы, культуры, этнічнай адметнасці, калі гэта будзе падмацоўвацца матэрыяльна і духоўна, то беларускае школьніцтва і адукацыя ў замежжы ўзрасце.

**Павел САЎЧАНКА,**
**Вільнюс**

# Трафікінг

***Фільм шведскага рэжысёра Лукаса Мудысона «Ліля назаўжды» аб дзіцячай прастытуцыі і продажу жанчын у сэксуальнае рабства выклікаў гарачую дыскусію***

## Праблема рабства

Дэманстрацыяй у гродзенскім кінатэатры «Восток» фільма «Lilja 4-ever» («Ліля назаўжды») была завершана серыя беларуска-шведскіх семінараў па праблеме гандлю людзьмі, што прайшлі ў Пінску, Брэсце, Гродна. Семінары былі арганізаваныя сацыял-дэмакратычнай партыяй Швецыі з дапамогаю беларускай грамадскай арганізацыі «Калегіум», што займаецца праблемамі гвалту над жанчынамі.

Злачынны бізнес, за якім усталявалася назва трафікінг, пашыраецца ва ўсім свеце. Паводле прыбытковасці гандаль жанчынамі займае трэцяе месца пасля наркабізнесу і продажу зброі. А Беларусь з'яўляецца адной з краін, што пастаўляе рабскую сілу ў Заходнюю Еўропу. Швецыя дастаткова пасьпяхова стрымлівае хвалю імпартаванай прастытуцыі, але справіцца з праблемаю можна толькі агульнымі намаганнямі.

Менавіта для гэтага прыязджалі ў Беларусь кансультант Шведскага ўрада і палітычны сакратар Нацыянальнага кансультацыйнага савета па супрацьдзеянню гвалту над жанчынамі Крыстына Хультман і рэдактар беларускага сайту ў Швецыі Марыя Сёдэборг. Шведкі падрабязна адказвалі на пытанні ўсхваляваных гледачоў, а потым уважліва сачылі за стыхійнай дыскусіяй, што разгарэлася ў кіназале. Моладзь і людзі сталыя спрабавалі разабрацца ў сітуацыі.

Сам фільм дастаткова просты. Гаротны лёс 16-цігадовай дзяўчынкі. Маці з'ехала ў Амерыку, а Ліля патрапляе ў пастку да суценёраў. Падманным шляхам дзяўчынку перапраўляюць у Швецыю, а там гандлююць ёю проста на вуліцах пагадзінна. У фінале Ліля кідаецца з моста і гіне.

Хваляванне ў гледачоў выклікала не толькі натуральнае спачуванне да гераіні фільма, але і ўсведамленне небяспекі для сябе і сваіх блізкіх. Не сакрэт, што, паводле двайных стандартаў, існуючых у нашым грамадстве, прастытуцыяй займацца быццам бы і ганебна, але ў той жа час прыбытковасць старажытнае прафесіі абмяркоўваецца выключна з зайздросным бляскам у вачах. А Галівуд і літаратура стварылі міфалагізаваны вобраз прастытуткі, які нічога агульнага з рэальнасцю не мае.



Кансультант Шведскага ўрада і палітычны сакратар Нацыянальнага кансультацыйнага савета па супрацьдзеянню гвалту над жанчынамі Крыстына Хультман і кіраўнік грамадскай арганізацыі «Калегіум» Надзея Аўгіевіч



На семінары

## Уражанні шведак

**Марыя Сёдэборг**: У вашай краіне вельмі шмат прастытутак. Калі заходзіш у бар гатэля, дык за стойкаю можна ўбачыць ажно 10-12 прастытутак. Мяне часта сярод ночы абуджаюць званкі з прапановамі сексуальных паслугаў. Гатэлі, па сутнасці, ператвораныя ў бардэлі. Я адчуваю сябе зняважанай.

**Крыстына Хультман**: Вы ў Беларусі дзеліце жанчын на прыстойных (мадонны) і кепскіх (нават язык не паварочваецца вымавіць). Такога падзелу не павінна быць. У кожнай жанчыне (як і ў кожным мужчыне) ёсць і кепскае і добрае. У прастытуцыі заўсёды два ўдзельнікі – гандляр і пакупнік. Але грамадства цяжар віны традыцыйна накладае на жанчыну.

## Уражанні гледачоў

**Хлопец**: Больш эфектыўным быў бы дакументальны фільм пра мужчын, якія зарабляюць на прастытутках грошы. Пра тых мужчын, якія купляюць на гадзіну непаўналетнюю дзяўчынку. Было б вельмі важна бачыць інтэрв`ю з імі, бачыць іх у турме. Мужчыны павінны мяняць свае паводзіны.

**Дзяўчына**: Мы ўсе добра ведаем прычыны, чаму дзяўчаты ідуць на панэль. Хіба можна дзе-небудзь зарабіць, каб добра апранууцца? Што ганебнага ў жаданні пасядзець у рэстаране, з'ездзіць на мора?! А гэта недасягальная мара для большасці. Дзяўчаты могуць зарабіць за мяжой і нават пашукаць там «прынца», каб выйсці замуж.

## Падманутыя

«Такое магло здарыцца і са мною» – гэтыя словы арганізатары семінара чулі паўсюль, дзе адбывалася абмеркаванне фільма. Лёс Лілі маглі падзяліць многія беларускія дзяўчаты. Зрэшты, і падзяляюць. Лічыцца, што ў прастытуткі ідуць выключна разбэшчаныя легкадумныя асобы, вартыя таго, каб імі пагарджала грамадства. Але па-пурытанску настроеныя прыстойныя грамадзяне закрываюць вочы на тое, што ў групе рызыкі – сіроты, удовы, шматдзетныя маці, адзінокія маці. Досыць часта жрыцамі кахання едуць працаваць за мяжу тыя, хто не мае свайго жытла альбо не ў стане вырашыць цяжкую матэрыяльную праблему, напрыклад назбіраць грошай на лячэнне дзіцяці альбо блізкага чалавека. А бывае, што жанчыны, згаджаючыся на працу афіцыянтак і гувернантак, нават не падазраюць, што замест заробкаў іх чакае пекла сексуальнага рабства.

Паводле некаторых дадзеных у сеткі гандляроў жывым таварам штогод у свеце патрапляе каля 700 тысяч чалавек, паводле іншых падлікаў, іх колькасць сягае ажно за 4 мільёны.

У параўнанні з іншымі прафесіямі прастытуцыя больш рызыкоўная на 40%. Жанчыны і дзеці набываюць посттраўматычны сіндром, які можна параўнаць з тым, што атрымліваюць на вайне. Прастытуцыя, як сацыяльны фенамен – агульная бяда ўсяго грамадства той ці іншай краіны, гэтую думку імкнуліся данесці да гледачоў шведскія феміністкі.

## Уражанне гледача

**Хлопец**: Страшны фільм. Самае страшнае, што гэта праўда пра наша жыццё. Людзі застаюцца адзін на адзін са сваімі бедамі. Нават калі маці пакінула дачку, дзе былі сацыяльныя службы? Гэта ж іх работа!

Калі фільм паказалі ў Швецыі, дык шведы былі шакаваныя. Яны плакалі над лёсам беднай дзяўчынкі і не маглі зразумець, як гэта нашае грамадства дапускае, што дзеці вымушаны займацца прастытуцыяй.

## Шведскі вопыт

А Крыстына Хультман, у сваю чаргу, выклікала немалое здзіўленне ў зале беларускага кінатэатра, калі расказала, як сацыяльныя службы Швецыі клапоцяцца пра неабароненыя катэгорыі насельніцтва ў краіне.

– Прастытуцыя існуе не сама па сабе. Гэта адна з формаў гвалту. Трэба працаваць над тым, каб сталі немагчымымі любыя формы гвалту ў адносінах да жанчын, да дзяцей.

У Швецыі рэзка скараціўся попыт на прастытутак, бо з 1 студзеня 1999 года паводле закона тут сталі караць пакупніка сексуальных паслуг, а не прастытутку. Прастытутка стала разглядацца як ахвяра. Скараціўся попыт, скарацілася і прапанова. Зараз у Швецыі ўзровень прастытуцыі вельмі нізкі. Але шанцаў падзяліць лёс гаротніцы Лілі ў беларусак усё роўна залішне шмат. Між тым, вырвацца з пекла сексуальнага рабства можна. Трэба проста звяртацца ў паліцыю. Калі жанчына дапаможа выкрыць злачынную групу трафікёраў, ёй прадастаўляецца магчымасць застацца ў Швецыі.

## Уражанні гледачоў

**Жанчына сярэдняга веку**: Гэта ўсё ад распусты. У нас ніхто не ходзіць галодны і апранутыя ўсе добра. Калі дзяўчынка і засталася без маці, дык можна папрасіць дапамогі ў суседзяў, ёсць сацыяльныя работнікі. Ніхто не адмовіцца дапамагчы.

**Маці двух дзяцей**: Я разумею дзяўчат, якія едуць на заробкі. За мяжу едуць ад безвыходнасці, якая ёсць у нашай краіне. Тут можна толькі круціцца, як вавёрка ў коле, альбо біцца, як рыба аб лёд, а жыць як чалавек тут немагчыма.

**Пажылы мужчына**: Фільм робіць уражанне на прыстойных людзей, але на прастытутак ён не зробіць моцнага ўражання. У канцы фільма як варыянт развіцця падзеяў паказваюць іншую Лілю. Яна дапамагае суседцы, яна адмаўляецца ехаць па чужым пашпарце за мяжу. Няўжо так нельга было жыць адразу?

**Хлопец**: Трэба змяніць ментальнасць. Я думаю, што Ліля невыпадкова патрапіла ў сексрабыні. Справа ў тым, што ў яе рабская псіхалогія. Яна рабыня па жыцці. Я не магу ўявіць сабе хепіэнд. Калі б Ліля не стала прастытуткаю і не загінула ў 16 гадоў, яна ўсё роўна пражыла б рабскае жыццё, бо ў яе няма ніякага пратэсту супраць гэтага. Кожны чалавек павінны разумець, што ён каштоўнасць. Але гэта трэба выхоўваць. А ў нас, наадварот, стараюцца выхоўваць рабоў.

**Дзяўчынка з заплаканымі вачыма**: Пасля фільма я зразумела, што ў мяне няма ніякіх праблем! Я думала, што ў мяне праблемы з бацькамі. Але цяпер я думаю, што ў мяне самая лепшая мама. У мяне няма праблем, бо тое, што я лічыла праблемамі – гэта дробязі.

**Дзяўчына**: Добра, што нам паказалі гэты фільм. Думаю, мы самі можам нешта змяніць у Горадні, іншыя людзі – у іншых гарадах.

**Ганна ГРЫБ**

# Фестываль «Магутны Божа»

У Магілёве ў 11-ы раз адбыўся Міжнародны фестываль духоўнай музыкі і спеваў «Магутны Божа». Пяць дзён у касцёле святога Станіслава няспынна гучалі музыка і спевы. Магілёўскі фестываль прымаў болей за 800 гасцей з 11 краінаў свету, у тым ліку з Германіі, Аўстрыі, Ірландыі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Польшчы ды іншых.

Журы фестывалю ўзначальваў прафесар Віктар Роўда. На прэсавай канферэнцыі ён выказаў сваё незадаволенне тым, што сёлета ў журы не запрошаныя знаныя беларускія музыказнаўцы Віктар Скарабагатаў і Галіна Каржанеўская, якія сталі ля вытокаў фестывалю і шмат гадоў бралі ўдзел у ім. Арганізатары ж патлумачылі гэта «адыходам ад стэрэатыпаў»: цяпер журы складаецца з прадстаўнікоў краін-удзельніц. Фестываль «Магутны Божа» традыцыйна захоўвае ідэю экуменізму: у ім бяруць удзел каталікі, праваслаўныя і пратэстанты.

**Ігар МІКАШЭНКА**

# Пасёлак «Сонечны» пакінуў Курапаты



Нарэшце выканана распараджэнне старшыні Мінскага аблвыканкаму Мікалая Дамашкевіча. Яшчэ 28 красавіка ён загадаў райвыканкаму скасаваць дамову на арэнду зямлі ў Курапатах для будаўніцтва катэджаў фірмай «Вігеўрабуд». Рашэнне чыноўніка, якое змяніла сітуацыю, стала вынікам шматмесячнага канфлікту.

Зараз, калі дамова аблвыканкама з «Вігеўрабудам» разарваная, паўстае шэраг пытанняў матэрыяльнага характару. Справа ў тым, што ў будаўніцтва на гэтым этапе былі ўкладзены вялікія грошы – каля 1,5 мільярда рублёў. Адпаведна за свае страты «Вігеўрабуд» збіраецца падаць зыск у Гаспадарчы суд на аблвыканкам з мэтай кампенсаваць выдаткі.

Сваю будаўнічую пляцоўку «Вігеўрабуд» ліквідаваў аператыўна – літаральна за два дні. З ахоўнай зоны мемарыялу таксама прыбраныя ўсе гаспадарчыя пабудовы і агароджы праваслаўнай капліцы. Зямля вакол Курапатаў будзе закансерваваная да вызначэння і зацверджання Саветам Міністраў ахоўнай зоны мемарыялу.

Наступны крок – гэта праект дэтальнай планіроўкі ўрочышча–помніка і навакольнай зямлі, якая зараз падпадае пад Закон аб ахоўных тэрыторыях. Усе гэтыя змены адбыліся ў немалай ступені дзякуючы намаганням Маі Кляшторнай, якая патрабавала ад розных дзяржаўных установаў спыніць парушэнні законаў фірмай «Вігеўрабуд» і праваслаўным прыходам. Падобным чынам дзейнічалі і прадстаўнікі Дзярждэпартамента аховы гісторыка-культурнай спадчыны. Сама спадарыня Кляшторная кажа, што «калі б гэтая праца была зробленая 10 год таму, то кальцавой дарогі, якая парэзала ўрочышча на дзве часткі, зараз бы не было», і хоць яна сама і лічыць гэтае рашэнне перамогай, але гаворыць, што «чыноўнікі зрабілі тое, што мусілі былі зрабіць паводле закона».

Спыніць будаўніцтва ў ахоўнай зоне актыўна дамагаліся і прадстаўнікі грамадскасці. Асноўнай праблемай для чальцоў шматлікіх арганізацый і проста свядомых людзей зараз застаюцца праявы вандалізму. Месца згубы шматлікіх ахвяр палітычных рэпрэсій па-ранейшаму прыцягвае тых, хто здзекуецца на магіламі, ламае крыжы. Акрамя гэтага, «лясны масіў» некаторыя бессаромныя гараджане скарыстоўваюць як месца для пікнікоў.

Непакой выклікае таксама рэканструкцыя кальцавой дарогі Калодзішчы–Заслаўе. Падчас працы было высечана некалькі дрэваў ва ўрочышчы з дазволу лесапаркавай гаспадаркі. Аднак, па словах Маі Кляшторнай, будаўнікі проста не ведалі пра тое, што ўрочышча – ахоўная зона, дзе дрэвы можна высякаць толькі з дазволу Дэпартамента па ахове помнікаў. Ад сваёй віны будаўнікі не адмаўляюцца.

«Для нас на сённяшні дзень застаюцца некалькі асноўных мэтаў: гэта вызначыць гаспадара (дагэтуль дакладна невядома, каму належыць тэрыторыя), межы аховы, ахова тэрыторыі і будаўніцтва капліцы. Менш вострымі, але таксама актуальнымі, застаюцца пытанні будаўніцтва мемарыялу і інфармаванне грамадскасці», – кажуць прадстаўнікі грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты». Пытанне з будаўніцтвам у ахоўнай зоне праваслаўнай капліцы найбольш цьмянае. Усе прызнаюць, што яно вядзецца незаконна.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

Франц Сіўко

# Дзень пры дні



* * *

Не так даўно было, здаецца: папросіць дзед прынесці што з начыння і разгубішся міжволі – дзе той кубел, а дзе цабэрак, як іх адрозніць? А яшчэ ж гарнцы ды гарнушкі былі, сіты з рэшатамі, кварты – не злічыць усяго... Па дзедавай смерці адных кашолак ды бязменчыкаў, лямпаў і ліхтароў самых розных канфігурацый гэтулькі знайшлі ў істопцы і на гарышчы – на добры музей хапіла б!

А пабудовы гаспадарчыя! Восець, адрына, клець, свіран... Зараз жа – пуня ды хлеў – увесь джэнтльменскі набор сялянскі. Што ў працы, што ў ладзе жыцця, што ў забаўках – куртата, сцісла, аднастайна.

***

Падзеж каровы – жахлівае для селяніна. На нашым падвор'і двойчы здыхалі. Першую бацька касою прырэзаў хворую. Помню цішу, што стаяла наўкола, пакуль выбаўляў няшчасную ад пакутаў, ды твар маці – збялелы, нежывы.

Мабыць, тады і ўпетрылася на ўсё жыццё ў свядомасць стаўленне да стачыны як да святога. Гадоў дванаццаць меў, калі, адбываючы радоўку, раптам убачыў, што адна канюшыны абраселай аб'елася. Увайшла ў раку па вымя і на бок павольна пачала класціся. Не ведаю, скуль рызыка ды сілы ўзяліся, але так мянташыў небараку палкаю па азадку, што не змагла ўлегчыся. Выгнаў з вады і з паўгадзіны яшчэ ганяў па пожні – да поўнага выратавання.

Другая незадоўга да мацерынай смерці здохла. Мучылася вельмі ад болю. «Пакладзе мне галаву на плячо і стогне, бы чалавек», – маці згадвала. Як і першую, не ўдалося ўратаваць. Неўзабаве і маці памерла. Суседкі казалі – з-за каровы.

***

Дзядзька Стась, як і многія з нашых мясцін, пасля вайны па вярбоўцы ў заробкі ў Расію падаўся. Вярнуўся голы-босы, з букетам звычак, для тутэйшага люду нязвыклых. Адзінае, што прыдбаў, – мове расійскай збольшага навучыўся. Ужываў яе дарэчы і недарэчы, асабліва нападпітку. Працаваць адвыкшы, пакрысе красці пачаў. Неяк пеўня суседчынага падпільнаваў, засек і звёз у Друю на кірмаш. Даведаўшыся пра тое, вяскоўцы пасмяяліся адно: «Ну, што зробіш – з рускага чалавек мовіць!»

***

Гора нібыта чалавека лепшым, мякчэйшым робіць.

У знаёмай, заўсёды сярдзітай настаўніцы сумнавядомы віцебскі душыцель Міхасевіч дачку васемнаццацігадовую забіў. Думалі ўсе, пераменіцца жанчына, стане больш абыходліваю з людзьмі.

Перамянілася – да горшага.

***

Фільм «Пеле – заваёўнік» – згустак болю і роспачы. І разам з тым – велічы духоўнай, трывушчасці гімн – пры зямлі – карміцельцы, пры статку, у цёпканні адвечным – пра нас нібыта. І побач з тым – эстэцтва нашае, з ходнікаў блішчастых чужынскіх на сярмяжныя гоні (іншых жа – не пазычыш) штучна перанесенае, з кубачкамі кавы на курорце модным – пыхі і пагарды недарэчны сімбіёз.

***

На аўтобусным прыпынку – з паўтара дзесятка кабет. Усе адна пад адну, адыстар каралеўны, што з паставы, што з твару, што са строю. І нас, мужыкоў, гэтулькі ж прыблізна – няголеных, паўцвярозых, з мяхамі і паперы скруткамі (шапік прыёму макулатуры побач) падпахамі ды за плячыма. Быццам два светы несумяшчальныя.

***

Здараецца, персанаж і бацькі адзінароднага, літаратара, можа стаць ахвяраю. Гора такое ў старога Карэніна, жонка здрадзіла, а пра яго – «пелестрадал»... Ды яшчэ і ягонымі вуснамі.

***

У Набокава ў апісанні Фільяты на адной толькі першай старонцы – каля дзесятка метафараў. Чытаеш – быццам паўз джунглі тых моўных знаходак прадзіраешся. Ці галерэю жывапісную аглядаеш – уваччу стракаціць. Але нават калі злуешся, мудрагелістасцю стомлены, не пакідае ўражанне : МАСТАК !

***

Жанчыне аперацыю зрабілі на выдаленне злаякаснай пухліны. Мужык, даведаўшыся, што благое ў сужэнкі, кінуў з дзвюма дочкамі, пайшоў да іншай.

– Здаровай пашукаю, – сказаў на развітанне. – Мужчыны ў цане зараз.

Выкараскалася памалу кабета з хваробы, акрэйбала. Дачок павывучыла, пааддавала замуж.

А на яго – як гром сярод яснага дня – тая самая хвароба. Другі язык, неаперабельны, вырас у роце, неўзабаве і памёр з таго.

***

На радзіме Твардоўскага, у Загор'і, кабеты мясцовыя песню спяваюць падчас урачыстасці ў гонар земляка. Сцепануўся ажно: словы спрэс беларускія!

Праз колькі хвілін запрасілі да мікрафона. Пачаў чытаць па-беларуску – рогат такі ўзняўся, вусцішна зрабілася. Даслухаўшы ж – абступілі імгненна, пытаннямі закідалі. Зацікавіліся, і то дзякуй.

***

Адыходзячы з універсітэта на іншую працу, вырашыў колькі гадзін на пражыццё пакінуць. «А, канечне, канечне», – рэктар пагаджаецца, хоць унутрана, адчуваю, і муляецца нешта.

Праз дзень у намесніка ягонага пра тое самае размова.

– Надумаўся ! – тыкае і ажно заходзіцца злосцю. – Няма гадзін!

А праз колькі часу па маім зыходзе пасяджэнне кафедры спецыяльна праводзяць: выпускніц-зелянькоў нейкіх з іншай ВНУ, хоць да канца навучальнага года ці не больш трох месяцаў яшчэ, на вакантную пасаду, мною вызваленую, абмяркоўваюць.

І напляваць ім на навучальны працэс, галоўнае – тым, што зверху загадалі «працаўладкаваць», дагадзіць.

***

Гадоў сем таму, атрымаўшы ў «ЛіМ»е ганарар, спакусіўся ля абменніка насупраць чыгуначнага вакзала купіць у двух малойцаў з рук дзесяць даляраў. Грошы мае ўзялі, а замест валюты пасведчанне тыцнулі пад нос:

– Міліцыя! Парушаеце правілы куплі-продажу, пройдзем у аддзяленне.

І ў падваротню цёмную цягнуць.

На шчасце маё – патрульных купка на вуліцы.

– Сюды! – крычу. – Памажыце!

Адзін уцёк, другога разам са мной прывялі ў пункт аховы правапарадку, што насупраць геафака універсітэта тады месціўся.

– Пакажыце ваша пасведчанне! – загадваюць «абменшчыку».

Выцягвае маладзец з кішэні паперыну, а ў ёй: «Дазваляецца канфіскаваць лішнія грошы ў занадта даверлівых грамадзян».

Гісторыя некароткі працяг мела, ды грошы вярнулі. З таго часу ніколі, нават калі пільная ёсць патрэба, у выпадковых людзей нічога не купляю.

***

З дзяцінства ўспамін.

У калгаснай агромністай шасеі, бярозкамі маладымі аздобленай, – кіно перад вечарынаю. Мы, малеча, па кутах на лавах месцімся, далей ад дарослых. На экране азіяты, усе пры зброі. Адзін, асабліва страшны, паўз поле паўзе з кінжалам у зубах.

Азірнешся ды і пасунешся бліжэй да сярэдзіны будынка. А праз хвіліну глядзь – купка ўжо равеснікаў побач.

У свет вакно – вусцішнае...

***

У школу за шэсць вёрст хадзілі. Выберашся з хаты а палове восьмай, назад у пяць вернешся. Паўз яры, лес, па бездаражы. Узімку – цалікам часта. Каторая з дзяўчат меншых ідзе-ідзе ды і ляжа на снег: «Усё, не пайду далей». Сумку возьмеш, тоўхнеш у каршэнь: «Трэба ісці!»

Таксама – чым не вакно!

***

Неўзабаве па сканчэнні універсітэта ў краслаўскай кнігарні. Касцюмчык сталічнага крою і валасы доўгія – не паспеў выпетрыцца налёт студэнцкае вольніцы. Магазіншчыца-латышка з цікаўнасцю:

– Поляк, няйначай?

– Беларус.

І цікаўнасць, і ветлівасць – бы карова языком злізала.

***

Творчасць – крыж, які пастаянна патрабуе падмацунку. Усялякую спробу пазбегнуць даніны яна карае жорстка і бескампрамісна.

***

Х.Вікерс пра Сесіль Ротшыльд: яна не дазволіла перамагчы сябе свайму багаццю.

Багацце можа перамагчы чалавека, і пасада, і ўлада – што заўгодна. Здароўе ж грамадства прама прапарцыянальнае колькасці асобін, здольных ім супрацьстаяць.

***

Выступаючы ў шматлюдных аўдыторыях, не-не ды прыгадаю эпізод з юнацкіх часін.

Аўтастанцыя ў райцэнтры. Лета. Мне шаснаццаць, прыязджаў у горад па нейкай справе. У кішэні – білет, чакаю аўтобус дадому. Цесна, горача, снуюць туды-сюды занятыя сабою людзі.

Падрульвае аўтобус, усе кідаюцца да дзвярэй, каб заняць зручнейшае месца. А мяне – страх спаралізаваў перад натоўпам.

Аўтобус кранаецца, і я застаюся ў станцыйным калідорчыку, пры білеце, чакаць больш позняга і невыгаднага, рэйса.

Наступным разам, не жадаючы ўскладняць сабе жыццё, раблю пасадку там, дзе менш людзей – на ўскрайку горада.

* * *

Чацверакурснік-філолаг прыносіць на зацвярджэнне план заліковага ўрока, а ў ім – каля дзесятка арфаграфічных памылак.

– Як жа так? – пытаюся.

– А ў мяне заўжды з граматай праблемы былі, – адказвае.

– А выкладаць як будзеце ў школе?

– А я сусветную культуру буду выкладаць, а не мову.

* * *

Пасля сустрэчы ў бібліятэцы адна са слухачак:

– У французаў – Манмартр, у англічанаў – Таўэр, у італьянцаў – Калізей ды Форумы. А ў нас што?

Тады сумеўся ад нечаканасці, адно прамармытаў нешта пра Мір ды Нясвіж. І толькі вяртаючыся дадому згадаў сваё, з дзяцінства знаёмае. Тры сядзібныя дамы на адлегласці ў пяць вёрст. З іх адзін помнікам архітэктуры ў міжваеннай Польшчы быў аб'яўлены.

Усё страбесавана, як кажуць у нас, на Мёршчыне, распасорана.

***

Першае выпрабаванне Бог дае чалавеку, каб схамянуўся. Другое – каб не засумаваў. Трэцяе - каб падзякаваў за першае і другое. Чацвертае – каб меў магчымасць папрасіць пра наступныя.

## Напамінкі



Радашковічы. Родная мясціна Янкі Купалы. З навакольных тыпаў ён напісаў сваю «Паўлінку». У гэтым будынку быў паказаны спектакль па п`есе ў прысутнасці аўтара і прататыпаў

# Ленін. Ракаў. Спорт

***Новае – заўжды амаль нешта старое. Станцыю метро «Плошча Незалежнасці» збіраюцца перайменаваць у «Плошчу Леніна»***

У Мінску з адметнай тапанімікай проста бяда – усяго нейкая жменька, колькі адсоткаў назваў з духам сталічнасці і беларускасці. І ўлады нават не намагаюцца, каб іх стала болей.

## На ўскрайках

Праўда, зрэдзьчасу Таварыства беларускай мовы дамагаецца-такі, каб ў сталіцы з'яўляліся вуліцы ў гонар слынных беларускіх гістарычных і культурных дзеячаў. Але гэта выключэнне, якое пацвярджае правіла. Прычым славутыя беларусы ўшаноўваюцца на вулічных аншлагах выключна на ўскраінах. Так, напрыклад, вуліца імя Янкі Лучыны ўзнікла ў Лошыцы, а Максіма Гарэцкага – у Сухарава. Нелішне нагадаць, што вуліца Каліноўскага таксама далёка ад гарадскога цэнтра. Застаецца цешыцца, што наогул гэтыя назвы з`явіліся: лепш позна, чымсці ніколі, і лепш дзе-небудзь, чымсьці нідзе.

Бо пакуль што такая тэндэнцыя, што, наадварот, абы захаваць тыя нацыянальна аздобленыя назвы, якія маюцца.

## Спорт супраць ракаў

Зусім свежыя прыклады гэтага лета. Мінгарвыканкам вырашыў пераназваць будучую станцыю метро «Ракаўская», якая будуецца на другой лініі ўслед за станцыяй «Пушкінская». Новая назва – «Спартыўная». Матыў? Нібыта «Ракаўская» асацыюецца з ракам. У сэнсе з хваробай. І смешна, і сумна.

## Ленін ці Незалежнасць

Але гэта не ўсё. Кіраўніцтва Мінскага метрапалітэна мае намер перайменаваць станцыю «Плошча Незалежнасці» ў «Плошчу Леніна». А гэта ўжо проста сумна. Напачатку ў цягніках сталічнага метро з'явіліся рэкламныя плакаты аператара сотавай сувязі Velcom са схемай ліній, на якой чамусьці з мінулага стагоддзя з'явілася «Плошча Леніна». Менчукі было падумалі, што гэта проста недарэчная памылка ці жарт, але праз пэўны час метрапалітэнаўскае начальства заявіла пра рашэнне ўнесці змены ў стужку радыёінфармацыі. Бо, маўляў, у 1991 годзе, калі Плошча Леніна ператварылася ў Плошчу Незалежнасці, аднайменную станцыю метро ніхто афіцыйна не пераназываў. Гэта праўда: асобнага афіцыйнага рашэння на гэты конт не было. Але ж гэта, здаецца, абсалютна лагічна, што павінна была памяняць назву і, так бы мовіць, вытворная ад назвы галоўнай плошчы Мінска станцыя. Гэтак і лічылася дагэтуль. Толькі што надпісы на сценах станцыі, якую абвяшчалі «Плошчай Незалежнасці», анекдатычна засталіся старыя – «Плошча Леніна».

Чаму гэты гармідар не выправілі яшчэ дзесяць гадоў таму? Цяпер вось і са станцыяй «Плошча Незалежнасці» можа адбыцца тое самае, як і з гербам «Пагоня» на Доме ўраду. Памятаеце, яго, відаць, на ўсялякі вандэйскі выпадак павесілі на стары герб БССР, а потым, калі нацыянальную сімволіку скасавалі, вельмі проста з дапамогай крана правялі дэматаж.

Наогул цяпер хіба што застаецца толькі кусаць локці, што напачатку 1990-х гадоў не ўдалося на хвалі Адраджэння перайменаваць так мала безаблічных мінскіх вуліц і плошчаў. Усё спрачаліся між сабой...

**Прапанова:**

**Дзеля мілагучнасці і сугучнасці з новай назвай адпаведнай станцыі метро перайменаваць мястэчка Ракаў у пасёлак Спартыўнае**

## Праспалі...

Тады адбыўся шэраг удалых перайменаванняў з мэтай дэідэалагізацыі тапанімікі сталіцы. Дарэчы, у палажэнні 1992 года аб перайменаванні вуліц і пляцаў Мінска пра гэта так прама і казалася. А пачынаючы з 1991 года ў сталіцы з'явіліся ці былі вернутыя з забыцця блізу дзесятка гістарычных гарадскіх назваў, якія цяпер гучаць надзвычай натуральна: Багдановіча, Гарадскі вал, Кальварыйская, Плошча Незалежнасці, Ракаўская (і ў нікога ніякай ракавай фобіі не ўзнікла), Раманаўская слабада, праспект Скарыны... Павінны былі адбыцца і новыя тапанімічныя змены.

Але з сярэдзіны 1990-ых, як і ўсё нацыянальнае адраджэнне, гэтая беларусізуючая тапаніміку хваля пераназыванняў рэзка змізарнела. Таму вельмі багата чаго з прынятага ў 1993 годзе адмысловага праекта па перайменаванні сталічных вуліц і плошчаў так і не было рэалізавана. А той праект прадугледжваў вяртанне двум дзесяткам вуліц у цэнтры Мінска старажытных назваў 15–18 стагоддзяў. Так, плошча Свабоды, якая ў 20-ым стагоддзі мела яшчэ назоў пляц Волі, а ў 19-ым за Расійскай імперыяй была Саборнай, мусіла стаць Высокім Рынкам, як тое было 400 гадоў таму. Інтэрнацыянальная дзялілася б на дзве вуліцы - Валоцкую і Зборавую (у 19-ым стагоддзі гэта былі адпаведна Хрышчэнская і Прэабражэнская). Рэвалюцыйную прапаноўвалася пераназваць у Койданаўскую, Камсамольскую (Багадзельную) – у Феліцыянаўскую (ад імя заступніка горада Феліцыяна), Леніна (Губернатарскую) – у Францішканскую, Энгельса (Петрапаўлаўскую) - у Дамініканскую, Герцэна (Мала-Манастырскі завулак) – у Бернардынскую, Гандлёвую – у Зыбіцкую, што вядомая яшчэ ў 15 стагоддзі. Вуліцы Куйбышава пасавала б назва Плябанская, Кісялёва – Старажоўская, а цяперашняй Старажоўскай – Барысаглебаўская, плошчы Парыжскай камуны – Траецкая гара, плошчы 8 сакавіка – Нізкі рынак, Валадарскага – братоў Луцкевічаў, Кірава – Гарэцкага, Свярдлова – Ластоўскага.

## Сімвалы адрынутага камунізму

Але гэтыя задумы запыліліся на паперах, а Мінск, у рэшце рэшт, у тым ліку і ягоны цэнтр, так і застаўся амаль увесь у савецкіх недарэчных і безаблічных вулічных назвах: Інтэрнацыянальная, Камсамольская, Камуністычная, Рэвалюцыйная, Савецкая, а яшчэ Кірава, Леніна, Маркса, Свярдлова, Энгельса.

У прэамбуле да палажэння аб пераназыванні вуліц і плошчаў Мінска гаворыцца, што «ў назвах вуліц і пляцаў засведчана памяць народа. Менавіта таму тапанімія з'яўляецца важным сродкам захавання яго свядомасці». У самім палажэнні гаворыцца, што сталічная тапанімія мусіць адлюстроўваць «гістарычную, геаграфічную, нацыянальную, сацыяльную, гаспадарчую і культурную своеасаблівасці нашага горада». Калі прытрымлівацца гэтага прынцыпу, то ад соцень цяперашніх назваў мінскіх вуліц, плошчаў ды завулкаў і мала застанецца. Якая своеасаблівасць Мінска, скажыце, засведчана вуліцамі Ангарскай ці Енісейскай, вуліцамі газеты «Правды» ці «Известия». Ужо не кажучы пра такія проста дурнотныя назвы, як Калектарная і Экскаватарная. А якая своеасаблівасць Мінска і Беларусі ўтрымліваецца ў процьме вулічных назваў у гонар тутэйшых і не толькі герояў рэвалюцыі 1917 года і савецкіх партыйных кіраўнікоў. Такое ўражанне, што беларускія савецкія чыноўнікі, не доўга думаючы, проста бралі ў рукі савецкія энцыклапедыі, гарталі і па іх называлі мінскія вулкі і плошчы.

## Літара «Ў»

А ў згаданым палажэнні, між іншым, пазначана, што імёнамі вуліцы могуць называцца толькі ў выключных выпадках. Тое самае тычыцца і замежцаў. У іхні гонар вуліцы могуць называцца толькі калі іхняе жыццё «непасрэдна звязана з Мінскам ці Беларуссю». А колькі ў нас такіх за вушы прыцягнутых імянных назваў?! І колькі неўшанаваных такім чынам выбітных суайчыннікаў?!

Такая ж сітуацыя, што і з тапанімікай, са скульптурным аздабленнем Мінска ды астатніх беларускіх гарадоў? Дзе помнікі Скарыну, Каліноўскаму ды многім іншым, хто лічыцца цветам беларускай нацыі? Трэба толькі жаданне. І беларускага духу ў нашых гарадах стане болей. Вунь у Полацку гэтай восенню на Дзень пісьмовасці будзе адкрыты помнік літары «Ў». Файная і арыгінальная ідэя! Як кажуць, можам, калі захочам!

**Кірыла ПАЗНЯК**


Мінск. Станцыя метро


Дзяржынск




Свіслач


Нясвіж


Лагойск


Лагойск


Лішкі прадукцыі

 



# Нумар 14411

***Гэты нумар Васіль Аўсеенка атрымаў у нямецкім палоне. Яму пашчасціла выжыць: з 5 мільёнаў савецкіх ваеннапалонных болей за 3 мільёны загінулі ў канцлагерах. На сённяшні дзень у Беларусі жывуць каля 2,5 тысяч былых ваеннапалонных, а на ўвесь былы СССР іх налічваецца каля 45 тысяч. Астатніх ужо няма на свеце.***

**Успаміны**

Васіль Сцяпанавіч Аўсеенка ў 1938 годзе скончыў лепельскую настаўніцкую вучэльню і два гады перад вайной працаваў у Лепелі. Пасля вайны настаўнічаў у Касцюковіцкім раёне да 1980 года, калі пайшоў на пенсію. Выкладаў матэматыку, геаграфію, нямецкую мову.

Сваю гісторыю ён распавядае толькі дзецям і блізкім знаёмым. Разам з дачкой напісаў у лагер Нойенгамэ, дзе яго трымалі. У адказе з Германіі пазначана, што «з Вашага расповеду відаць, што Вы ваеннапалонны, і не маеце права на выплаты». У лісце гаворыцца, што ўсе матэрыялы лагера Нойенгамэ былі спаленыя незадоўга да вызвалення на загад СС. Таму дакументальна выявіць зараз, ці знаходзіўся сп. Аўсеенка ў лагеры для ваеннапалонных, ці ў канцлагеры, немагчыма. Адзіная крыніца інфармацыі – успаміны Васіля Сцяпанавіча. Паводле гэтых успамінаў нямецкі бок палічыў, што ён «не быў вязнем канцлагера, а знаходзіўся толькі ў лагеры для ваеннапалонных».



Васіль Аўсеенка дакладна памятае абставіны чатырохгадовага палону, у які ён трапіў пад мястэчкам Нямірава на Украіне.

«Да вайны служыў каля мяжы пагранічнікам. У палон трапіў 24 чэрвеня – на трэці дзень вайны. Калі нас, 30 чалавек, прыгналі за дрот, там ужо было чалавек 200. Там, у Нямірава, прабылі мо з тыдзень. І камадзір батальёна таксама патрапіў, ён быў наш начальнік школы, беларус. Пасля нас усіх чалавек 200 ці 300 адправілі ў лагер, гэта ўжо на польскую тэрыторыю, у горад Яраслаў. Лагер быў спешна зроблены – доўгія навесы, накрытыя толлю ды калючы дрот...

Есці не было чаго. Калі не будзеш трымацца каго іншага, дык і не падымешся. Колькі там прабылі – можа, з тыдзень, можа крыху больш. Першымі днямі ліпеня нас – не ўсіх, а можа, з тысячы дзве, дзве з паловай – пагрузілі ў цялятнікі і адправілі ў вялікі лагер у Германіі.

Лагер № 308, у які нас прывезлі, быў вялікі, зваўся Нойенгамэ. Там ужо былі сотні тысячаў палонных. Лагер быў падзелены на блокі. Калючы дрот, электрычны ток, вышкі, вартавыя з сабакамі, голы пясок... Ніякіх пабудоў, ні травінкі, нічога не было. Праўда, вада была. У кожным блоку трымалі тысячаў 6–7 людзей, спалі ўсе проста на зямлі. Адзін раз на дзень давалі есці баланду – вада адна.



Праца ў лагеры Нойенгамэ

У гэтым лагеры прабыў я да кастрычніка 41 года. У кастрычніку нам далі нумары, павесілі на шыю такія стужкі, і нас чалавек дзвесце набілі ў машыну з прычэпам і адвезлі працаваць. Будавалі мы пляцоўку для самалётаў, аэрадром. Дык мы верхнюю зямлю здымалі і грузілі ў малыя ваганеткі. Строілі гэты аэрадром дзве фірмы – фірма «Мілер» і фірма «Крауз». Лагер там быў невялікі.

Кармілі вельмі блага. Працавалі ў дзве змены, у кожнага была жоўтая стужка на вопратцы з надпісам «US» – Савецкі Саюз. Ахоўвалі нас маладыя эсэсаўцы. Збівалі да смерці. Не дай бог заваліўся, тады б'юць – не глядзяць па чым і як, і прыкладамі, і нагамі. Там я прабыў з тыдзень, можа болей. Захварэў, а тых, хто не мог рабіць, адпраўлялі назад у лагер. Крыху ачуняў, і зноў адправілі мяне на работу. Гэтым разам на чыгунку, у горад Кенегцэльт – гэта вялікая чыгуначная развязка. Лагер там – памяшканне з трохпавярховымі нарамі і апілкі замест ложкаў. А пятай нас падымалі, давалі чай і пасля ў вагон і на работу – рамантаваць чыгунку. І ў гэтым лагеры былі ўсе мы больш за год. Пасля перавялі нас у другое месца на гэтай жа дарозе, дзе ветка чыгуначная ідзе на гарады Штандорф і Штрыгаў.

Халады стаялі тады. Запахнешся, стружак у адзенне напхаеш, паперы дзе хто якой знойдзе, усё ішло, каб сагрэцца... Так да 43 года. Адтуль нас, каля сотні чалавек, перавялі на шахту. Гэтае месца па ўсей верагоднасці Верхняя Сілезія. Горад немцы звалі Брэслаў , а па-польску будзе Вроцлаў. Там шахты Вальдэнбург і Дзітэрсбах. На гэтых шахтах я і працаваў, усяго там было чалавек 500–600 шахцёраў. Працавалі ў тры змены, дзень і ўначы.

Калі на чыгунцы было многа вошаў, стружкі ажно ад іх варушыліся, дык на шахце вошаў не было, а заядалі клапы. Святло гарэла дзень і ноч. Хто пападзе яшчэ на верхнія нары, таму трохі лягчэй, а хто на ніжнія, сярэднія, дзе цёмна, дык для іх гэта самая работа. Іншыя ночы дык за сталом спалі.

Прабыў там можа месяцаў сем ці восем – дакладна не скажу, не памятую. Тут нам давалі ўжо і паліць, цыгарэты польскія прывозілі. Семачкі давалі і хлеб, грамаў па 300. Адбойным малатком каб работаць, трэба націснуць моцна, а то сам трасешся. А сілы ж няма, каб добра націснуць...

Пасля зімой, у лютым, прайшлі чуткі, што будуць браць да баўэра. Чалавек трыццаць сабралі на машыну і павезлі, недалёка каля шахты вёска такая была – Бадзальцбрун. Вечарам прывозяць, дом стаіць, абнесены дротам, відаць некалі лагер там быў. Святло гарыць. Нас заводзяць у вялікі пакой, глядзім – там немцы, чалавек можа з 20, і жанчыны, і мужчыны, стаяць, агладаюць нас... Тут усё роўна як на рынку, кожны сабе з нас выбірае. Я да немкі адной трапіў.

А ў другіх пакоях чысты-чысты ложак, бялізна, коўдры пуховыя, усё накрухмаленае. Падводзяць нас да гэтых ложкаў, паказваюць: гэта – твой. З сумкі дастаюць бутэрброды, чай у тэрмасе ...

Там я і рабіў: пахаў, сеяў, касіў, коней даглядаў. Гаспадары тут мяне ні разу не білі, і нават не крычалі. Жанчыны былі толькі, мужыкі іхнія на вайне, а яны, тры сястры, засталіся. Калі б яны былі жывыя, – яны ўсе старэйшыя за мяне былі, – то я ім бы напісаў. Яны былі задаволеныя маёй работай. Баўэра гэтага звалі Герман Пелькнэр. Сам ён быў на фронце, а сястра яго была ўпраўляючая – Эма. Яшчэ была малодшая сястра Эльза – у яе было двое дзяцей. Старэйшай дзяўчынцы гадоў 8–9, і меншая за яе сястрычка. І яшчэ была старэйшая сястра, гадоў за 60, фраў Фокнэр па мужу. Тут я быў гады паўтара, да самага вызвалення. Вызвалілі мяне 8 мая 1945 года. А пасля яшчэ год служыў у арміі. У 1946 дэмабілізаваўся. Сам я з Магілёўскай вобласці, Краснапольскі раён, вёска Горы.

**Праблема**

Па словах прэзідэнта нямецкага фонду «Памяць, адказнасць і будучыня» Міхаэля Янсэна, выплата кампенсацый і фінансавая дапамога былым вязням нацызму зараз для немцаў «з'яўляецца не праблемай права, а пытаннем гонару і выканання маральнага абавязку».

З такой заявай ён выступіў у Мінску 10 чэрвеня на 10-годдзі беларускага рэспубліканскага фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне» – асноўнага партнёра арганізацыі. Але гэты маральны абавязак з выплатай кампенсацыяў і аказаннем фінансавай дапамогі лічаць неабходным выканаць у адносінах да людзей, якія прымусова былі вывезены на працу ў Германію ў гады Другой сусветнай вайны.

Фонд «Памяць, адказнасць і будучыня» – асноўны нямецкі фонд, які размяркоўвае грошы паміж партнёрскімі арганізацыямі Расіі, Польшчы і Украіны. Фонд зважае на справы прымусова перамешчаных у Германію грамадзянаў былога Саюза. Пры гэтым лічыцца, што кампенсацыя ваеннапалонным – гэта пытанне рэпарацыяў, якое павінны вырашаць паміж сабой дзяржавы пасля заканчэння вайны. Матэрыяльныя кампенсацыі прадугледжваюцца для былых вязняў канцлагераў, малагадовых вязняў, ахвяраў Халакоста. Ваеннапалонныя не трапляюць ні ў адну з гэтых катэгорый. Аднак менавіта гэтыя людзі, зведаўшы палон, зведалі і здзекі не меншыя, чым тыя, хто быў у канцлагерах. Многія з іх вымушана працавалі, паклаўшы сваё здароўе.

Пытанні маральнай кампенсацыі для бацькі сталі праблемамі Людмілы Аўсеенка – дачкі Васіля Сцяпанавіча. «На сённяшні дзень я ажыццяўляю дагляд за састарэлым бацькам, атрымліваю за гэта 24 тысячы рублёў. Гэта такая дапамога. Ёсць яна ці няма, мне ўсё роўна, бо даглядаць бацьку – мой абавязак», – кажа Людміла Аўсеенка. Але, на яе думку, за ўсё тое, што бацька перанёс падчас вайны, трэба плаціць. Людзі там страцілі сваё здароўе. За гэты год ужо тры разы дачка з бацькам была ў бальніцы. «Такіх людзей напэўна шмат, з якіх здзекаваліся пяць год, а зараз яны павінны даказваць што яны таксама пацярпелі. Бацька кажа, што не ведае, як ён выжыў. Гэта боль і несправядлівасць. Звярталіся ў Германію, таксама ў міжнародную службу вышуку. Але вынікаў пакуль, што ніякіх. На ўсе звароты адказы былі толькі ў выглядзе фармальных адпісак».

У 2001 годзе нямецкі бок вырашыў, што ваеннапалонныя не маюць права атрымліваць кампенсацыі, паколькі і нямецкія ваеннапалонныя таксама працавалі ў нас. Зараз Васілю Сцяпанавічу кажуць, што калі кампенсацыю заплацяць яму, тады і тыя немцы, што працавалі ў нас, таксама могуць патрабаваць грошы. Але тыя, хто ўдзельнічаў у вайне, адчуваюць несправядлівасць гэтага рашэння. У рэшце рэшт, вінаваты той, хто пачаў вайну.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

З 15 кастрычніка 2003 года пачнецца другі этап выплат грашовых кампенсацый асобам, якія зведалі пераслед ад нацыстаў у гады Другой сусветнай вайны. Падчас першага этапу выплат кампенсацыі атрымалі 130 грамадзянаў Беларусі. Усяго выдадзена 65% сумы, якая вагаецца ад 2,5 да 15 тысячаў нямецкіх марак для розных катэгорый ахвяраў нацызму.

Таксама, па словах прэзідэнта фонду «Узаемаразуменне і прымірэнне», ажыццяўляецца персаніфікаваная матэрыяльная падтрымка ахвяраў Халакосту, выплата пенсій габрэям – былым вязням нацысцкіх лагераў і гета – і іншым. Грошы выдзяляюцца Швейцарскім фондам дапамогі ахвярам Халакоста, а таксама сродкі прадастаўляюцца замежнымі дабрачыннымі арганізацыямі. Сярод новых праектаў – санаторна-курортнае лячэнне 270 былых вязняў у санаторыях Беларусі, Польшчы і Расіі.

 

# Мураваная варта

Крыжацкія набегі на беларускія землі асабліва ўчасціліся ў канцы XIII – пачатку XIV ст. Драўляныя ўмацаванні з муравамі вежамі-стаўпамі ўжо не маглі стрымаць ворага. Таму ў першай палове XIV ст. узнікае абарончая сістэма з магутных замкаў у Лідзе, Навагрудку, Крэве, Медніках, Вільні і Троках. Гэта былі як старыя, з цягам часу адбудаваныя з каменю і цэглы замкі-дзядзінцы, так і новы тып замкаў – кастэлі, запазычаны на Захадзе.

Слова «кастэль» мае лацінскую аснову (castellum – замак) і спачатку азначала ўмацаваны валам і ровам лагер рымскага легіёна. У XIII–XIV стст. кастэлем у Заходняй Еўропе называлі мураваны замак, які меў адну ці дзве вежы і будаваўся ў нізіннай мясцовасці на штучным насыпе.

Мясцовыя дойліды, узяўшы за ўзор рыцарскі кастэль, прыстасавалі гэты тып абарончага збудавання да сваіх умоў. Яны значна павялічылі плошчу замкавага двара, дзе маглі ў час небяспекі знайсці прытулак не толькі войска, але і мірнае насельніцтва, са сваім скарбам.

## Ліда

Адным з першых на Беларусі замкаў новага тыпу з'яўляецца Лідскі, пабудаваны ў 30-х гадах XIV ст. Велічныя муры ўзведзены на штучным насыпе са жвіру, пяску і камянёў у балоцістай сутоцы дзвюх рэчак – Лідзеі і Каменкі. Спачатку замак меў адну вежу ў паўднёва-ўсходнім куце і чатыры высокія 15-метровыя сцяны з баявой галерэяй. У замку было два ўваходы. Адзін з іх, паўцыркульнай формы, знаходзіцца ў паўднёвай сцяне на вышыні 4 м ад першапачатковага ўзроўню двара, недалёка ад замкавай вежы. Другі, у форме паўкруглай аркі вышынёй 2,5 м, праразае заходнюю замкавую сцяну і знаходзіцца на ўзроўні зямлі. Захаваліся рэшткі былой брамы. Гэта два вялікія камяні ў аснове арачнага праёма з круглымі адтулінамі для металічных слупкоў, на якіх трымаліся вароты. З боку двара да малога ўвахода пазней прыбудавалі падковападобнае абарончае збудаванне, ад якога захаваліся моцна пашкоджаныя падмуркі. Калі вораг і здолеў бы выламаць вароты, то трапіў бы ў каменны мяшок, дзе не было паратунку.

З поўначы, на адлегласці 7–10 м ад замкавых муроў, праходзіў глыбокі роў шырынёй каля 20 м, які злучыў абедзве ракі і абараніў замак з боку горада.

Замкавыя муры ў асноўным збудаваны з палявога каменю. Звонку яны складзены з вялікіх, часам крыху абчасаных валуноў. Камяні падабраны да аднаго па памерах і пакладзены роўнымі гарызантальнымі радамі. Прамежкі паміж імі запоўнены каменнымі клінамі і замазаны рошчынай. Унутраная частка сцен складзена з дробных камянёў. З цэглы зроблены вуглы замкавых вежаў і сцен, дэкаратыўныя паясы на фасадах, аркі, скляпенні, байніцы.

У канцы XIV – пачатку XV ст. крыжакі ўжо мелі гарматы. Таму беларускія і літоўскія замкі сталі прыстасоўваць да агнястрэльнай зброі. У Лідскім замку былі пабудаваны яшчэ адна замкавая вежа і новы вялікі ўваход недалёка ад яе, які праразаў усходнюю сцяну на вышыні 2,5 м ад узроўню зямлі.

Рэшткі гэтай вежы былі раскапаны ў 1977 г. Захаваўся амаль увесь першы паверх. Вежа мела ўваход у выглядзе аркі з боку двара і лесвіцу ў тоўшчы заходняй сцяны, якая вяла на верхнія паверхі. Абедзве вежы Лідскага замка былі пакрыты дахоўкай, шматлікія рэшткі якой знойдзены падчас раскопак. Дахоўка мае паўцыркульную карытападобную форму з мацавальным шыпам пасярэдзіне ад яе шырокага краю. Некаторыя экземпляры яе маюць яшчэ і дадатковы маленькі шып у цэнтры ўнутранай паўакружнасці шырокага краю дахоўкі. Маленькімі шыпамі яна чаплялася за падоўжаныя жэрдкі, прыбітыя да крокваў даху, а вялікія шыпы ўтрымлівалі адну дахоўку на другой. Прамежкі паміж радамі даховак замазваліся вапнавай рошчынай. Гэтая самая старадаўняя дахоўка на Беларусі датуецца канцом XIV – першай паловай XV ст.



Лідскі замак

Лідскі замак у XV ст. уяўляў моцную абарончую пабудову з аднапавярховымі драўлянымі будынкамі па перыметры замкавых муроў для гарнізона і складоў, сярод якіх вылучаўся дом каменданта. Такі тып замкаў быў распаўсюджаны тады ў Прусіі і па іншых прыбалтыйскіх землях. Зараз замак адбудоўваецца.

Гістарычны лёс замка ў Лідзе даволі складаны. У XIV ст. яго муры не раз стрымлівалі напады крыжакоў. У XV ст. яго зачапілі міжусобныя феадальныя войны, а ў пачатку XVI ст. пад замкавымі мурамі апынуліся крымскія татары. Летам 1659 г. замак пасля доўгай аблогі і штурму быў захоплены войскам рускага ваяводы Мікіты Хаванскага і цалкам спалены. Увесь час Лідскі замак належаў дзяржаве і ахоўваўся мясцовай шляхтай. Да канца XVIII ст. у замку праходзілі гарадскія суды. У пачатку XVIII ст. яго моцна пашкодзілі шведскія войскі, якія ўзарвалі вежы і ўсе куты замкавых сцен.

## Крэва

Калі ў Лідскім замку вежы не выходзілі за межы сцен, то галоўная вежа Крэўскага замка (Княская), збудаваная ў канцы XIII – пачатку XIV ст., значна выходзіць за перыметр замкавых муроў. Вежа памерам 18,6х17 м мела не менш як тры паверхі, сутарэнне-турму і была прыстасавана пад жыллё. Пакоі князя знаходзіліся на другім паверсе, дзе вокны значна большыя і шырэйшыя і, верагодна, былі аздоблены фрэскамі. Сутарэнні, відаць, мелі гатычныя скляпенні, такія ж, як вежы Лідскага замка. Летам 1988 г. падчас археалагічных раскопак унутры Княскай вежы былі знойдзены рэшткі цаглянага слупа, на які абапіраліся рэбры скляпення, шмат кавалкаў фрофільных нервюрных цаглін і вялікая колькасць фрэсак. На адным фрагменце добра праглядаецца чалавечае аблічча. Сцены Крэўскага замка маюць розную даўжыню, а іх таўшчыня ў аснове каля 3 м. Крыху пазней Княскай у паўночна-ўсходнім куце замкавага двара ўзвялі яшчэ адну вежу (11х10,65 м), якая мела не менш як 4 паверхі. Абедзве вежы і баявая галерэя былі пакрыты чырвонай паўцыркульнай дахоўкай, вельмі падобнай да лідскай.

У сярэдзіне XIX ст. вакол замка яшчэ можна было заўважыць рэшткі рова. Даследчыкі адзначалі, што яго шырыня каля 50 сажняў, і, мяркуючы па рэльефе мясцовасці, ён ніколі не быў глыбокі, бо запаўняўся вадою з сажалкі.

Крэўскі замак – сведка шматлікіх гістарычных падзей. Тут у сутарэннях Княскай вежы быў забіты вялікі князь літоўскі Кейстут, знаходзіўся ў палоне Вітаўт, у жніўні 1385 г. у замку была падпісана унія паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім.

## Навагрудак

Акрамя будаўніцтва новых нізінных замкаў, у XIV–XV стст. перабудоўваюцца і старыя драўляныя нагорныя дзядзінцы ў Навагародку, Віцебску і Гародні. Аснову гэтых замкаў склалі высокія вежы, злучаныя каменнымі мурамі. На тэрыторыі замкаў узводзяцца каменныя культавыя і жылыя пабудовы. У якасці прыкладу можна прывесці Навагрудскі замак. Як азначае адзін з даследчыкаў беларускай архітэктуры М.Ткачоў, «гісторыя яго ўмацаванняў прайшла шлях ад простай агароджы-частакола да наймагутнейшага шматвежавага замка». Старажытная мураваная вежа накшталт Камянецкай з'явілася ў Навагародскім замку сярод драўляных зрубаў у другой палове XIII ст. Яна мела чатырохвугольную ў плане форму, якая набліжалася да квадрата, і высокі падмурак, зроблены з вялікіх – да 1 м і больш – камянёў.

Шмат разоў падыходзілі да сцен замка крыжакі. Пасля аднаго з нападаў у канцы XIV ст. вежу давялося адбудаваць амаль поўнасцю, але ўжо не з каменю, а з цэглы.

Новая вежа Шчытоўка, квадратная ў плане, пабудавана ў традыцыйнай тэхніцы «лусковай» муроўкі, калі шчокі сцен рабілі з цэглы, а ўнутраную частку муру – з камянёў і цагельнага друзу на вапне. Вежа мела пяць паверхаў з перакрыццямі на бэльках. У ніжняй частцы знаходзілася брама. Муры праразалі арачныя байніцы, паверхі злучала лесвіца, «схаваная» ў тоўшчы паўднёвай сцяны. Рэшткі гэтай вежы захаваліся да нашых дзён.

Неўзабаве пасля будаўніцтва Шчытоўкі ўзводзяцца іншыя мураваныя вежы і муры замка. Спачатку з усходу ўзвялі яшчэ тры вежы і злучылі іх мураванымі сценамі. Вежы падобныя да Шчытоўкі, але ніжэйшыя і мелі тры паверхі. Да нашых часоў захаваліся рэшткі Касцельнай вежы і Малой брамы. З прычыны таго, што вады ў замку не было і толькі на ўсходнім схіле замкавай гары білі моцныя крыніцы, над адной з іх і паставілі дзесьці ў XIV ст. мураваную Калодзежную вежу.

У канцы XV – пачатку XVI ст. у беларусаў з'явіўся новы вораг – крымскія татары. У 1505 г. замак вытрымліваў аблогу вялікай татарскай арды султана Біці-Гірэя. У паўночна-заходняй частцы замка збудавалі магутную вежу, якую назвалі Дазорцай. Захаваліся старажытныя гравюры XIX ст., якія даюць уяўленне пра яе вонкавы выгляд.

Квадратная аснова вежы паступова пераходзіць у васьмярык. Гэтыя абрысы ўласцівы для замкавых вежаў, пастаўленых у часы росквіту беларускай готыкі.

Паступова ўсе драўляныя гародні ў Навагародскім замку змянілі мураваныя сцены. Таксама ў пачатку XVI ст. ля паўднёва-ўсходняга схілу гары пабудавалі яшчэ дзве вежы, злучаныя мураванымі сценамі. Разам з Калодзежнай яны стварылі своеасаблівае дадатковае ўмацаванне, значна павялічыўшы фартыфікацыйныя якасці замка.

У пачатку XIV ст. за замкавымі мурамі на двары зрабілі каменную царкву, якая потым шмат разоў перабудоўвалася, а крыху пазней, у сярэдзіне XIV ст., непадалёку ад царквы быў узведзены двухпавярховы каменны палац.

## Гродна

Прыкладна такі ж шлях развіцця абарончых збудаванняў прайшоў Гарадзенскі замак. Спачатку, у XIII ст, сярод драўляных зрубаў-гародняў і цагляных сцен з плінфы ўзводзіцца круглая мураваная вежа-стоўп. Пасля пажару, на мяжы XIV і XV стст., князь Вітаўт поўнасцю перабудоўвае замак, уключыўшы мураваны стоўп у сістэму агульнай абароны. Замак тады меў пяць вежаў і невялікі двухпавярховы мураваны палац, які быццам зліваўся ў адно цэлае з мурамі і вежамі.

Магутныя муры замка звонку былі выкладзены паслоіна радамі валуноў з унутранай забутоўкай. Верхнія часткі замкавых пабудоў былі аблямаваны тоўстай буйнапамернай цэглай. З боку двара сцены вежаў і палаца мелі нешматлікія арачныя вокны, а абарончыя муры мелі зверху накрытую чырвонай дахоўкай баявую галерэю.

Адзіны ўваход у замак Вітаўта знаходзіўся з боку ракі. Да яго вёў драўляны мост, які дугой падыходзіў да вежы з узной брамай. З боку горада ўваход у замак бараніла круглая вежа, якая існавала тут яшчэ з XIII ст. Княскі палац, прыбудаваны да замкавых муроў, з боку горада быў двухпавярховы. Парадныя памяшканні знаходзіліся на другім паверсе і былі перакрыты нярвюрнымі гатычнымі скляпеннямі. У канцы XVI ст. замак перабудоўваецца ў новым рэнесансным стылі і прыстасоўваецца пад каралеўскую рэзідэнцыю. Тут люіў жыць Стэфан Баторы.

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**



Сцяна Гарадзенскага замка

# Палёт валькірый



Адна з апошніх спецаперацый амерыканскіх войскаў у Іраку, скіраваных на вынішчэнне партызан – зачыстка ў горадзе Рамадзі – прайшла пад музыку з фільма Фрэнсіса Копалы «Апакаліпсіс сёння». У гэтым фільме адна з самых уражлівых сцэн – высадка верталётамі дэсанта ў В'етнаме – была агучана вядомым магутным творам Вагнера «Палёт валькірый». Класічная музычная кампазіцыя была скарыстана для падняцця баявога духа і, відаць, для захавання традыцыі. Калі ў фільме амерыканскія верталёты прарываліся да берага скрозь агонь в'етнамскіх зенітак, то ў горадзе Рамадзі пад музыку Рыхарда Вагнера браніраваныя джыпы амерыканцаў выбівалі вароты, а салдаты абшуквалі дамы. Партызанскі рух у Іраку ўзмацняецца. Невядомая раней група, якая называе сябе «Нацыянальным фронтам федаінаў», абяцае працягваць атакі да таго часу, пакуль амерыканцы не пакінуць Ірак.

# Іракцы пачалі супраціў

Шэсць брытанскіх вайскоўцаў былі забіты ў іракскім горадзе Амара мясцовымі жыхарамі. Як сцвярджаюць сведкі, гэтыя дзеянні мірных іракцаў здарыліся пасля шматразовага ігнаравання брытанцамі папярэджанняў ад мясцовай шыіцкай абшчыны. «Брытанскія салдаты прыходзілі да нас са сваімі сабакамі і настаўлялі зброю на нашых жанчын і дзяцей. Мы – мусульмане, таму прысутнасць сабак у нашых дамах недапушчальная», – пракаментаваў падзеі адзін з мясцовых рэлігійных лідэраў.

Іракцы сцвярджаюць, што яны абавязаліся здаць усю зброю на працягу двух месяцаў, аднак гэта не панізіла інтэнсіўнасць пошукаў. Калі група брытанскіх дэсантнікаў прыбыла для правядзення паноўнага вобшуку, тысячы жыхароў выйшлі на вуліцы выказаць свой пратэст. Пасля некалькіх сутыкненняў брытанскія вайскоўцы адкрылі агонь, па іх словах, гумавымі кулямі. Іракцы, пачалі адстрэльвацца з аўтаматаў Калашнікава. У выніку шэсць брытанцаў загінулі, а яшчэ восем атрымалі раненні.

# Самы дарагі горад Еўропы

Па заходніх стандартах самым дарагім для жыцця еўрапейскім горадам прызнана сталіца Расійскай Федэрацыі і наша «саюзніца» – Масква. Да такой высновы прыйшлі спецыялісты кампаніі Mercer Human Resource Consulting, якая ацаніла кошт жыцця ў 144 гарадах па ўсёй планеце. На першым месцы ў рэйтынгу «самых» стаіць Токіо, на трэцім – Асака, на чацвёртым – Сянган (Ганконг), на пятым – Пекін, на восьмым – Сеул. Да месца сказаць, Ганконг, які летась заняў першае месца па дарагавізне, цяпер патаннеў у значнай ступені з-за атыпічнай пнеўманіі – горад не толькі перастаў прываблівць турыстаў, але і стаў адпужваць бізнесменаў.

У першую дзесятку, апроч расійскай сталіцы, увайшлі толькі тры еўрапейскія гарады – Жэнева, Лондан і Цюрых, і адзін амерыканскі – Нью-Ёрк. Танней за ўсё пражываць у Лацінскай Амерыцы – шэсць апошніх радкоў у спісе занялі буйныя гарады гэтага кантынента. Апошні у пераліку – парагвайскі горад Асунсьён.

Летась «еўрапейцаў» у першай дзесятцы было яшчэ меней, гэтым годам іх колькасць узрасла з-за ўмацавання еўра ў адносінах да даляра. А вось «амерыканскія гарады апусціліся дастаткова нізка – Лос-Анджэлес, Чыкага, Маямі занялі адпаведна 22, 25-е і 27-е месцы.

Фарміруючы рэйтынг, спецыялісты ўлічвалі 200 параметраў, у тым ліку кошт жылля, харчовых тавараў, адзення, забаваў і праезду на транспарце. Гаворка, зразумела, ідзе пра тавары і паслугі, якія адпавядаюць заходнім стандартам якасці. Па сутнасці, кампанія Mercer Human Resource Consulting ацаніла кошт пражывання ў 144 гарадах замежных гасцей, а не «абарыгенаў». Але тым выразней кантрасты ўзроўню жыцця «сваіх» і «замежнікаў».

**Мікалай ЛЯМУС**

# Новая «мілітакратыя»

Цяпер Расіяй правяць не палітычныя рэфарматары і не прагматычныя тэхнакраты. Яе эліта, што трымае ўладу, – гэта «мілітакраты», як называюць іх некаторыя сацыёлагі. Гаворка ідзе пра кіраўніцтва, якое складаецца з былых ваенных і супрацоўнікаў спецслужбаў, чый светапогляд афарбаваны раздражненнем у сувязі з ліквідацыяй савецкай улады і стратай прэстыжа Расіі ў свеце.

У першыя посткамуністычныя часы ў расійскай эліце пераважалі добра адукаваныя цывільныя асобы. Сёння ўладу амаль цалкам захапілі мілітакраты. Згодна з дадзенымі сацыялагічнага даследавання, болей за 35% усіх намеснікаў міністраў ва ўрадзе, прызначаных Пуціным з 2000 года, з'яўляюцца выхадцамі з асяроддзя ваенных ці спецслужбаў. Сёння болей за чвэрць усіх вышэйшых чыноўнікаў Расіі – выпускнікі ваенных акадэміяў. Адпаведна колькасць кандыдатаў і дактароў навук ва ўрадзе скарацілася з 50% пры Барысе Ельцыне да 20% у бягучы час. Былыя генералы і кіраўнікі спецслужб сёння запаўняюць не толькі такія традыцыйныя для іх галіны, як абарона, разведка і нацыянальная бяспека, але і кіруюць грамадзянскімі міністэрствамі і ведамствамі (знешні гандаль, прамысловасць, эканамічнае развіццё, транспарт, тэлекамунікацыі, адносіны ўласнасці, юрыспрудэнцыя).

Пуцінская назначэнцы прытрымліваюцца архаічных поглядаў на пытанні, якія датычацца знешняй палітыкі ў сферы бяспекі, палітычнай свабоды і свабоды прэсы. Мілітарысцкая эліта Расіі пакрыўджана ростам амерыканскай магутнасці, імкнецца да адраджэння рэгіянальнай гегемоніі Расіі ўва Украіне, на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі.

**The Wall Street Journal**

# Марс паспрачаецца з Венерай



«Вялікае супрацьстаянне Марса», пры якім Чырвоная планета становіцца надзвычай яркая і набліжаецца да Зямлі максімальна блізка, адбудзецца 28 жніўня. Такая з'ява бывае адзін раз на 5 тысяч гадоў.

У момант супрацьстаяння Марс наблізіцца да Зямлі на 307 тысяч кіламетраў. Памеры Марса на начным небасхіле павялічацца ў 6 разоў, а яркасць – у 85 разоў, і ў выніку па яркасці на зямным небе Марс будзе саступаць толькі Месяцу і Венеры.

Звычайныя «вялікія супрацьстаянні» Марса адбываюцца адзін раз у 15–17 гадоў. У XX стагоддзі, у прыватнасці, такія з'явы назіраліся ў 1956, 1971 і 1986 гадах.

Астролагі лічаць, што Марс злучаны з катастрофамі і войнамі, а набліжэнне гэтай планеты да Зямлі нясе небяспеку разбуральных войнаў. І хоць астраномы не схільныя прыпісваць Марсу гэтакія якасці, для касманаўтыкі гады «вялікіх супрацьстаянняў» былі адзначаны некалькімі трагічнымі падзеямі.

У чэрвені 1971 года адбылася самая вялікая трагедыя ў гісторыі савецкай касманаўтыкі – загінуў экіпаж «Саюза-11», які складаўся з 3 чалавек. А ў студзені 1986 года ў час старту з мыса Канаверал узарваўся касмічны карабель новага пакалення Challenger. Нарэшце, апошняя трагедыя – гібель экіпажа Columbia – адбылася незадоўга да новага вялікага супрацьстаяння Марса, якое будзе ў жніўні.

**Уладзімір ГРЭЧКА**

# Кансерватары, як звар`яцелыя клапы

***Сусветна вядомы пісьменнік пра палітыку амерыканскага ўрада***

**Курт Ванегут**



Гавораць, што Марк Твэн праліў слязу ўдзячнасці і недаверу, калі атрымаў узнагароду Оксвардскага універсітэта за сваю творчасць. І я, зразумела, таксама павінен праслязіцца, калі мяне, васьмідзесяцігадовага старога, просяць выступіць тут у Хартфордзе, у святым доме Марка Твэна, дзякуючы тым творам, якія я напісаў.

Якая іншая памятная мясціна Амерыкі гэтак жа святая для мяне, як і дом Марка Твэна? Мемарыял Лінкольна ў Вашынгтоне. Марк Твэн і Аўраам Лінкольн – сельскія хлопцы з цэнтральнай Амерыкі – прымусілі амерыканскі народ смяяцца над сабой і ацэньваць па-сапраўднаму важныя, па-сапраўднаму павучальныя жарты.

Звяртаю вашу ўвагу на тое, што ў цяперашні час будаўніцтва музея Марка Твэна, які будзе знаходзіцца тут, у Хартфордзе, за карэтным дваром дома Марка Твэна, спынена.

Рабочых распусцілі па дамах, бо амерыканскія «кансерватары», як яны самі сябе называюць, людзі з Уол-Стрыт і з кіраўніцтва бальшыні нашых карпарацыяў, скралі большую частку нашых прыватных ашчаджэнняў, разарылі інвестараў і службоўцаў праз махлярства і непрыхаванае рабаўніцтва.

Шок і трымценне.

І зараз, прызначыўшы сябе нашым федэральным урадам ці кантралюючы яго звонку, яны растранжырылі дзяржаўную скарбніцу, болей за тое, стварылі дзяржаўны пазыкі такога жахлівага памеру, што нашы нашчадкі, на якіх мы ўскладаем свае вялікія спадзяванні, прыйдуць на гэты свет беднымі, як царкоўныя мышы.

Шок і трымценне.

Што кансерватары робяць з грашыма і з уладай, якія раней належалі ўсім нам? Яны жадаюць, каб мы ўсяго баяліся і бегалі па крузе, як куранты, якім адсеклі галовы. Але гэтыя людзі выратуюць нас. Яны прымушаюць нас здымаць абутак у аэрапортах. Ці можа хтонебудзь з прысутных тут прыдумаць больш вясёлы розыгрыш?

Усміхайся Амерыка. Цябе здымаюць. Прыхаванай камерай.

Яны абрушылі безліч самых сучасных боепрыпасаў, кожны з якіх каштуе даражэй, чым сотня сярэдніх школак, на краіны трэцяга свету, каб кінуць у шок і трымаценне жыхароў Міжрэчча, такіх жа людзей, як мы, як Адам і Ева.

Што ж уяўляюць сабой гэтыя кансерватары? Гэта людзі, якія перавернуць неба і зямлю, калі патрабуецца, якія знішчаць кампанію, краіну ці планету, каб давесці нам і самім сабе, што яны мацнейшыя за ўсіх, за каго б ні была, за выключэннем сваіх хаўруснікаў. А пра хаўруснікаў яны паклапоцяцца, ратуючы іх ад турмы і да т.п.

Кансерватары – як звар'яцелыя клапы. Яны – вялікія забіякі.

Шок і трымценне.

Класавая вайна? Вы ўгадалі.

Яны даказалі сваю перавагу паклоннікам Аўраама Лінкольна, Марка Твэна і Ісуса Назараніна, пры актыўнай падтрымцы тэлебачання, зводзячы да нічога нашыя пратэсты супраць вайны.

Што з намі адбылося? Мы перажылі тэхналагічную катастрофу. Нашым урадам цяпер стала тэлебачанне.

На якой падставе мы пратэставалі супраць іх вайны? Я магу назваць мноства падставаў, але назаву толькі адну – здаровы сэнс.

Як бы тое ні было, будаўніцтва музея Марка Твэна рана ці позна будзе адноўлена. І я, сын і ўнук архітэктараў з штата Індыяна, карыстаюся магчымасцю, каб прапанаваць для яго дапаўненне, якое, спадзяюся, будзе аздабляць карніз галоўнага ўваходу ў музей.

Думаю, яно будзе забаўнае, а Марк Твэн любіў жарты болей за каго іншага. Я перапрацаваў адно з яго знакамітых выказванняў, якое гучыць: «Будзь прыстойным чалавекам – і будзеш адзінокі».

Уявіце, якім прыгожым будзе галоўны ўваход у музей Марка Твэна. Уявіце словы, высечаныя на камяні і выдзеленыя залатой фарбай: «Будзь прыстойным чалавекам – і будзеш адзінокім практычна ўсюды. Але толькі не тут, толькі не тут».

**«In These Times»**

*Скарочаны варыянт лекцыі, якую Курт Ванегут прачытаў у доме Марка Твэна ў Хартфордзе, штат Канектыкут*

Канкурэнцыя



Дзявочы гурт Atomic Kitten (унізе) лічыцца ў Англіі самым сексуальным. Дзяўчаты з Atomic Kitten стварылі канкурэнцыю расейскай групе «Тату» (уверсе), якая вядомая праз скандалы.



# «Стрыпарэла»

***Мульцітвор для маленькіх дзетак***





Актрыса Памела Андэрсен вырашыла дасягнуць зоркавай славы ў галіне анімацыі. Неўзабаве на амерыканскія экраны выходзіць мультфільм з нязвычнай назвай «Стрыпарэла», галоўную ролю ў ім «іграе» дакладная копія Андэрсен – сакрэтны агент Эротыка Джонс. Гаворыць Эротыка голасам Памелы.

Гераіня фільма Эротыка вядзе двайное жыццё. Па начах яна танцуе ў стрып-бары, а з надыходам ранку пачынае змагацца са злачыннасцю. У першай серыі Эротыка змагаецца са «злым геніям пластычнай хірургіі» доктарам Сезар'янам, які адмыслова калечыць целы сваіх кліентак. Напрыклад, адной з супермадэлек ён імплантуе у грудзі траціл замест сілікону.

У самой Стрыпарэлы грудзі таксама не звычайныя. Самая аб'ёмная частка цела маляванай Памелыператворана аўтарамі мульціка ў дэтэктар хлусні. А губная памада агенткі 69 – сапраўдная лазерная зброя.

Памела Андэрсен сцвярджае, што ганарыцца сваёй гераіняй. «Яна мае другое я – сільная, разумная, сексуальная – і паглядзім праўдзе ў вочы – трошкі распусная», – апавядае актрыса. Нягледзячы на гэтую самую распуснасць, Эротыка не будзе паказвацца ў кадры цалкам голая – на гэтым настаяла Памела, якая лічыць, што мультфільм будуць глядзець дзеці. Тым не менеій «гарачых» сцэнаў у карціне хапае – прыкладам, Стрыпарэла танцуе ў бакале з шампанскім, і хоць бурбалкі закрываюць усе «важныя» месцы, гледачам відочна, што Памела распранутая. Магчыма, дзеці і зацікавяцца гэтакай барацьбіткай са злачыннасцю. А вось ці выкажуць цікаўнасць да «сіліконавай прыгажуні» дарослыя – пакуль невядома.

# Ціхая кавярня

У Парыжы на беразе Сены адкрылася незвычайнае кафэ, прызначанае для глуханямых. Шыльда, меню, указальнікі ў самым кафэ – гэта карцінкі з выявамі знакаў мовы глуханямых. Заказаць абед у новай кавярні людзі, якія чуюць і гавораць, не могуць. Для іх на адваротным баку меню намаляваны прынятыя сярод глуханямых жэсты. На крайні выпадак можна напісаць свой заказ на паперы, але бальшыня наведвальнікаў стараецца карыстацца жэстамі. «Ім падабаецца, што ў нас ціха. Ніхто не крычыць, ніхто не мае сотавых, – апавядаюць глуханямыя афіцыянты гэтага кафэ. – Калі заказ падрыхтаваны, повар скідвае паведамленне на пэйджэр, а не гукае цераз усю залю».

Кафэ, якое называецца Signes, – прыватная ўстанова, але яно атрымлівае матэрыяльную дапамогу ад дзяржавы ў рамках праграмы падтрымкі глуханямых. «Французскае грамадства не вельмі талерантнае, – кажа дырэктар кавярні. – Да глуханямых ставяцца як да людзей з хібамі. Мая кавярня не толькі дае працу тым людзям, хто не можа атрымаць яе ў іншым месцы, але і дапамагае простым людзям зразумець, што глухата ці немата – гэта не загана».

# Шчодры Эмінэм



У часе свайго апошняга канцэрта ў Вялікабрытаніі ў горадзе Мілтан Кійніс па поўнач ад Лондана амерыканскі спявак Рэпер Эмінэм літаральна шакіраваў сваіх прыхільнікаў надзвычай элегантным учынкам. Спявак зняў са сваёй шыі ланцуг з кулонам, які, па яго словах, каштуе 450 тысяч даляраў, і падараваў адной са сваіх паклонніц.

«Я аддаю гэтую рэч самай сексуальнай жанчыне з усіх, каго зараз бачу», – заявіў Эмінэм, нахіліўся са сцэны да натоўпу і перадаў каштоўнасць дзяўчыне, якая стаяла ў першых шэрагах. Гледачы, што стаялі побач узнагароджанай і былі сведкамі гэтага атракцыёна небачанай шчодрасці, расказвалі потым, што дзяўчына перажыла сапраўдны шок. Кулон выглядаў на вялікі крыж, асыпаны брыльянтамі. Дзяўчыне, якой гэтак пашанцавала, каля 20 гадоў, яна бландынка, прывабная, носіць акуляры. Такога яшчэ не здаралася ні на якім масавым канцэрце за ўсю іх гісторыю.

# Апагей вульгарнасці

Найболей характэрная эпідэмія пачатку XXI стагоддзя – гэта зусім не атыпічная пнеўманія, а бессаромнасць, вульгарнасць, прымітыўнасць. Уся зямная куля, аплеценая відэашэрагам карцінак, якія пастаянна паўтараюцца, практычна ўжо стала падобная на метафару-буф палавога органа ці на публічнае адпраўленне натуральных патрэбаў, якое суправаджаецца казармавым рогатам.

Тэлевізійныя праграмы забіты балбатнёй аб мастурбацыі, фекаліях, эякуляцыі, бясконцымі сюжэтамі з пагладжваннем бюстаў, плёткамі і чуткамі аб раскручаных і фальшывых знакамітасцях, выстаўленымі на агульны агляд целамі. У тэатрах даюць цэлы тузін спектакляў, накшталт «Маналогаў вагіны», дзеянне якіх разгортваецца вакол дзетародных органаў: любыя інтымныя падрабязнасці чалавечага жыцця выцягваюцца на паверхню, каб няспынна «весяліць» «шаноўную публіку».

І гэтую тэндэнцыю ў развіцці індустрыі відовішчаў можна назіраць на ўсім свеце. Няўжо адкрытае хамства стала ўжо нормай жыцця?

## Да сутнасці пытання

Тэлевізійная аўдыторыя ва ўсіх краінах часцей за ўсё характарызуе апошнімі словамі падобныя праграмы, якія шмат хто дакладна акрэслівае як «ташнотныя». Аднак перанасычаныя пошласцю перадачы збіраюць шматмільённую аўдыторыю гледачоў, якіх вароціць ад прапанаванага ім «паскудства». Тым не менш яны не ў стане адвесці вачэй ад такой карцінкі на экране тэлевізара. Болей за тое, сярод найбольш прагрэсіўных і культавых персанажаў нашага грамадства ёсць і тыя, хто рэгулярна глядзіць падобныя перадачы, каб «расслабіцца», «адарвацца». Пры гэтым нібыта трэба разумець, што глядзяць яны іх дзеля атрымання інфармацыі аб дэградацыі грамадства.

Найбольш уражвае паўсюднае распаўсюджанне гэтага феномена. У свой час кітч з уласцівай яму другаснасцю выглядаў іранічнай пародыяй. Трэш-культура, якая з'явілася пазней, падманвала гледача сваёй уяўнай вычварнасцю. А цяпер у сістэматычнай вульгарнасці няма нічога, апроч празмернасцей цела, памыяў і плоскіх жартаў.

## Культура для дзяцей

Цікавасць да мерцвякоў, прыцягальнасць living дзярма, некантралюемыя паводзіны, неразуменне розніцы паміж прыватным і грамадскім – адным словам, «культура дупы» – усё гэта належыць свету дзяцей. Нямецкія даследчыкі апублікавалі кнігу аб эвалюцыі спорту, у якой правялі аналіз паводзінаў дарослых «балельшчыкаў» на спартыўных спаборніцтвах, параўнаўшы іх лямант і жэсты з дзіцячай манерай выяўлення ўласных эмоцый, якой малыя карыстаюцца ў любым грамадскім месцы.

Кожны футбольны фанат будзе выказваць на стадыёне свае эмоцыі падобна дзіцяці, дзякуючы атмасферы ўседазволенасці, якая пануе на спартыўным мерапрыемстве. Аднак дарослы чалавек ніколі не стане паводзіць сябе так у іншых абставінах. Месца правядзення футбольнага матча і час яго правядзення дзейнічаюць на балельшчыка як тая прадуха, праз якую выплёскваюць усе прымітыўныя пачуцці, якія цывілізацыя душыла ў чалавеку, каб ён мог больш годна існаваць у грамадстве разам з іншымі індывідуумамі. Гэтаксама любы чалавек быў вымушаны пакінуць для свайго прыватнага жыцця большую частку эмоцый, якія датычаць асалоды ці болю: таму любоўныя стогны былі перанесены ў алькоў, а адпраўленне фізіялагічных патрэб арганізма – у нужнік. Людзі лічаць вартым прытрымлівацца агульных нормаў паводзінаў, каб пакінуць у недатыкальнасці агульную зону пражывання. Але ўсе гэтыя правілы пасля трыумфу вульгарнасці, судзячы па ўсяму, пачынаюць паступова адміраць. Інакш як можна патлумачыць той факт, што нехта дзікім голасам крычыць у мабільны тэлефон у любым грамадскім месцы і называе гэта прыватнай размовай? Як можна апраўдаць усе тыя дзікія выхадкі, што былі публічна здзейснены ў нецвярозым стане (бойкі, абразы, страта гонару і годнасці).

Усё наша выхаванне было скіравана на стрымліванне сваіх эмоцый, і чым лепш чалавек мог кантраляваць выяўленне сваіх пачуццяў, тым большай павагай ён карыстаўся. І што, сёння гэтая норма паводзінаў страчана? Падобна, што эпідэмія вульгарнасці, нядаўна названая *Зваротным бокам Новай Эканомікі,* стала ўжо не проста часовым сімптомам.

У грамадстве вульгарнасць праяўляецца не толькі ў манеры паводзінаў і ў парушэнні яго нормаў, але і ў неахайных адносінах да гутарковай мовы, у абразлівым для слыху ўжыванні моўных канструкцый, якое можна пачуць практычна ў любой тэлевізійнай ці радыёперадачы. Падобная мова пачынае ўспрымацца як «сапраўдная», «шчырая», якую можна скарыстоўваць у прамым эфіры на тэлебачанні і ў кіно «пра жыццё». Маленькае дзіця не ў стане дачакацца жаданага, яно гатова тупаць нагамі і плакаць у голас, каб атрымаць тое, што хочацца. Дакладна гэтак і вульгарны дарослы чалавек аказваецца не ў стане ўспрымаць літаратурныя творы – нетаропкія па стылістыцы і не схільныя да стварэння эфекта. Такі чалавек аддае перавагу відовішчнасці карцінак, вакол якіх і разгортваецца ўся культура неадкладнага атрымання жаданага.

## Кепскія манеры

Нядаўна ў Таронта прайшла сустрэча чальцоў амерыканскага таварыства псіхіятраў. На ім прагучаў і такі тэзіс: «Мы здзіўлены маштабамі распаўсюджання дурных паводзінаў сярод насельніцтва, а болей за ўсё – уплывам дрэнных паводзінаў на людзей».

Размова, у першую чаргу, ішла аб прымітывізме і грубасці ў дачыненнях індывідумаў адзін з адным. Такім чынам атрымоўваецца, што вульгарнасць – гэта нешта большае, чым спарадычнае скажэнне рэчаіснасці і зусім не славесныя гульні з выкарыстаннем словаў «Эякуляцыя, слюні і дупа». Даходзячы да пэўнай мяжы, вульгарнасць робіцца стылем жыцця. Гэта стыль дэградуючага дэмакратычнага грамадства, у якім ускрываюцца смуродныя раны парушаных чалавечых адносінаў, інтымны бок жыцця чалавека выстаўляецца на продаж, а аказанне дапамогі ператвараецца ў непатрэбны баласт, які бяруць на сябе толькі дзеля атрымання прафесійнай карысці.

Сярод іншых прычын наступлення царства вульгарнасці называюць і рост сацыяльнай ізаляванасці людзей у грамадстве. Дэфіцыт кантактаў паміж людзьмі і падзеленых перажыванняў прыводзіць да ўзнікнення дэпрэсіўнага стану, адчаю, росту агрэсіўнасці ці журбы. Карціну знікнення сімпатыі і пачуццяў павагі да іншага чалавека можна дапоўніць, прыгадаўшы незразумелую агрэсіўнасць кіроўцаў, грубасць прадаўцоў у шмат якіх развітых краінах, скаргі на работнікаў сферы паслуг, знікненне добрых сувязяў паміж сем'ямі, суседзямі, сябрамі. Знікае не толькі павага да іншага, але і да самога сябе.

Гэтая сітуацыя і нараджае нервовасць і сварлівасць, прымітывізм мовы зносінаў. Іншымі словамі, сённяшні стан – сапраўдны апагей грубасці. Кожны намагаецца абараніцца, не разбіраючы ні сродкаў, ні таго, супраць чаго яны скарыстоўваюцца. Адначасна тэлебачанне і кіно дэманструюць нам, што чым больш непрыстойная грубасць, чым больш вульгарнасці – тым болей аўдыторыя гледачоў.

Вульгарнасць зрабілася паказчыкам маральнай блытаніны, сметнікавай эстэтыкі і смуроднага загнівання дэмакратычных прынцыпаў.

**El Pais**

# «Noc Bluesowa»

## *Гурт «P.L.A.N.» – гэта музычная зборная мінскіх блюзмэнаў і рок-н-рольшчыкаў «старой школы»*

Кожны з удзельнікаў гурта – легенда беларускай рок-музыкі. Але, калі ўспамінаюць P.L.A.N, заўсёды ідзе размова толькі пра кампазітара Андрэя Плесанава. Гэта не дзіўна, бо асоба лідэра захапляе амаль рэнесанснай рознабаковасцю – мастак, калекцыянер, рэстаўратар, музыка, выдатны майстар хатніх трункаў...

Але гурт «P.L.A.N» моцны якраз тым, што яго ўдзельнікі – аднадумцы і сябры, маюць свае заслугі перад беларускім рок-рухам. Напрыклад, Генадзя Станкевіча за свайго настаўніка лічаць шмат якія беларускія гітарысты – І. Шэўчык, А.Маркуц, Р. Веташкін, А.Каненкоў. Бубнач А.Сапоненка, акрамя «роднага гурта», дапамагае музыкам «KRIWI» і гурту «Гарацкія». А без бас-гітарыста А.Стэцэнкі «P.L.A.N» не набыў бы той дасканаласці ў аранжыроўках, на якую заўсёды звяртаюць увагу слухачы. І гэта не дзіўна – Анатоль шмат гадоў працаваў у фальклорным гурце «Харошкі».

Пасля выхаду ў свет першага сольнага альбома гурта, які названы «Blues у канцы тунэля», пра «P.L.A.N» загаварылі як пра зорку беларускай рок-музыкі. Мы папрасілі лідэра гурта А.Плесанава распавесці пра гісторыю стварэння альбома «Blues у канцы тунэля» і пра акалічнасці, якія суправаджалі яго выхад.

– Я даўно марыў выдаць альбом гурта «P.L.A.N.» і меў для яго дастаткова музычнага матэрыялу. Дапамагчы ажыццявіць гэтую задуму я папрасіў вядомага гукарэжысёра Г.Сыракваша, які стаў маім настаўнікам падчас запісу дыска. Аднойчы я праспяваў яму свае кампазіцыі ў народным стылі. Генадзь ажывіўся: «Слухай, гэта ж добрыя песні! А колькі іх у цябе, на альбом хопіць?» Тады Сыракваш прапанаваў дапісаць яшчэ некалькі песень на вершы іншых паэтаў і зрабіць цалкам беларускамоўны альбом. «Бо беларуская музыка, – даводзіў мне ён, – зараз знаходзіцца на ўздыме і мае сталую аўдыторыю...»

На наступны дзень мяне выпадкова пазнаёмілі з паэтам Андрэем Бурсавым, які прэзентаваў мне свой паэтычны зборнік. На яго вершы я напісаў некалькі песень і паказаў Андрэю ў акустычным варыянце. Яны яму вельмі спадабаліся.

У зборніку «Верш на Свабоду» я таксама знайшоў тэмы для сваіх песень. Некалькі кампазіцый я стварыў на вершы журналіста В.Мартыненкі. Мне здаецца, наша песня «Даміно» – адна з лепшых у альбоме «Blues у канцы тунэля».

**– Андрэй, як здарылася, што неўзабаве гурт быў запрошаны на прадстаўнічы блюзавы фестываль у Польшчу?**

– Як толькі пачалося «жыццё» першага альбома гурта «P.L.A.N.», мы адразу разаслалі яго на радыёстанцыі і ў аргкамітэты еўрапейскіх блюзавых і рок-фэстаў, у тым ліку і ў аргкамітэт XIII фестывалю «Noc Bluesowa», які праводзіцца ў польскім горадзе Рава Мазавецкая. І адтуль у хуткім часе прыйшло запрашэнне. Праўда, умовай нашага выступу быў удзел у якасці «зорак». Мы вырашылі, што арганізатары маюць права на сваю рацыю...

І вось мы выправіліся ў Польшчу. Наша вандроўка была азмрочана тым, што на мяжы з-за пратэрміноўкі пашпарту быў затрыманы наш гітарыст Генадзь Станкевіч. Для яго – ветэрана беларускай гітарнай музыкі, – гэтая навіна стала, як гром з яснага неба...

На шчасце, мы аператыўна звязаліся з вучнем Станкевіча Іллёй Шэўчыкам, які ў той час быў у Польшчы. Ён выратаваў наш выступ – за дзве гадзіны перад выхадам на сцэну вывучыў партыі гітары больш паловы ўсіх песень і выдатна адыграў канцэрт. Вялікі дзякуй яму за гэта! Калі мы ўсё гэта распавядалі Генадзю Станкевічу, то ў яго на вачах убачылі слёзы і гонар за вучня...

Хачу адзначыць цудоўную арганізацыю фэста «Noc Bluesowa». Не паспелі мы засяліцца ў гатэль, як нас чакаў сюрпрыз – нумар мясцовай газеты з дадаткам «Glos Nocy Bluesowej», дзе быў змешчаны матэрыял і фота гурта «P.L.A.N.» разам з іншымі ўдзельнікамі фэсту – «Bohemian Blues Band», Betty S, Jan Liteck Sveda, T. Dziano...

**– Разам з «Крамай» гурт «P.L.A.N.» арыентуецца на беларускамоўныя тэксты ў сваім блюзавым рэпертуары. Як успрынялі слухачы блюз па-беларуску?**

– Я першы раз удзельнічаю ў такім фэсце, але «рэзанула па вушах» тое, што ўсе спявалі на ангельскай мове і ў асноўным блюзавыя стандарты. Гэта падабалася, але копія застаецца копіяй. Нават калі яна выканана бездакорна.

«P.L.A.N.» зайграў блюзы і рок-н-рол па-беларуску, хоць мне раней казалі, што гэтыя рэчы не сумяшчальныя. Але ж мы ўпэўніліся ў адваротным – публіка цудоўна ўспрымала беларускую мову і нашыя песні, а таксама твор Т.Налепы, які мы спецыяльна падрыхтавалі для польскіх слухачоў.

З прыемнасцю ўспамінаю момант, калі пасля выступу да нас падыходзіць кіраўнік аргкамітэта Рышард Краснадэбскі і ўзрушана кажа: «Андрэйка, як добра гучаць вашыя песні па-беларуску! Як добра, што вы спяваеце блюз на роднай мове. Гэта так нечакана!» Потым нам перадалі, што ўсе сябры журы былі вельмі ўражаныя тым, што мы спявалі блюз і рок-н-рол на беларускай мове.

**– Нам вядома, што гурт «P.L.A.N.» актыўна працягвае свае творчыя пошукі. У якіх напрамках гэта адбываецца?**

– Узрушаныя паспяховым выступам у Польшчы, мы шчыльна займаемся стварэннем чарговых альбомаў. Частка песень ужо запісана поўнасцю, частка – толькі інструментальныя партыі...

Другі дыск будзе створаны ў асноўным на мае вершы (у перакладах В.Мартыненкі), а таксама на вершы паэта Л.Пятрэнкі. Альбом мае рабочую назву «Dusia, Praciag Budze». Магчыма, мы назавём яго інакш – «Вашае слова, Джон-Ячмень!» Бо на гэтай кружэлцы будзе песня, прысвечаная беларускаму піву на верш Р.Бёрнса (пераклад Я.Семяжона). Іншы ж дыск ужо мае назву «Добрай раніцы, Беларусь!»

Адначасова я працую над сольным дыскам з назвай «Пёсэнькі самотнэго бялорусіна», ў псеўданародным стылі на беларускай, польскай, украінскай і расейскай мовах. Хачу, каб гэты альбом быў акустычным, з мінімальнай колькасцю інструментаў. Магчыма, гэта будзе чыста фальклорны ці бардаўскі альбом.

Для трыб'юта гурта «N.R.M.», які хутка выйдзе да юбілею гэтай каманды, «P.L.A.N.» падрыхтаваў кавер песні Л.Вольскага «Маё пакаленне» з выкарыстаннем шматгалосных спеваў, інструментаў з сімфанічнага арсеналу...

**Гутарыў Анатоль МЯЛЬГУЙ**



Гурт «P.L.A.N.»

Развагі

# *Філасофія як чын жыцця*

Філосаф Валянцін Акудовіч выглядае незалежным ад дабрабыту, нядбайным да статусу ў соцыюуме. І тым злуе тых, хто залежны і дбае. Без усялякай напругі ён робіць тое, што іншым не даецца і пры моцным напружанні свайго інтэлекту.



**Валянцін Акудовіч (справа) і Томас Венцлава**

Снобы лічаць Акудовіча блазенам ад філасофіі. У пэўнай ступені гэта сапраўды так, калі лічыць філасофіяй яе універсітэцкую ці акадэмічную форму. Ёсць людзі, якія не баяцца здавацца смешнымі і нягеглымі. Блазен, здольны філасофстваваць, больш пажаданы ў любой кампаніі, чым засушаны гегельянец ці насычаны песімізмам экзістэнцыяліст, і Акудовіча з радасцю запрашаюць як на турысцкія маршруты ў элітарнай кампаніі (турыст ён вельмі кампетэнтны), так і на розныя прэзентацыі. У выпадку, калі прэзентацыя выглядае малацікавай, Акудовіч больш чым апраўдвае сваю прысутнасць элегантным інтэлектуальным скандалам, які па сутнасці з`яўляецца рэакцыяй на падман, на неадпаведнасць заяўленай формы ўбогаму зместу. Іншымі словамі, ён не любіць іграць тую ролю ў масоўцы, якую плануюць арганізатары імпрэзаў.

Так, да прыкладу, адбылося з праектам «Верш на Свабоду». На прэзентацыі Акудовіч параўнаў тоўстую кніжку «Верш на Свабоду» ў прысутнасці яе шматлікіх стваральнікаў з калектыўным «Письмом товарищу Сталину». Потым з задавальненнем узгадваў, як яго там ледзь не пабілі.

Шматлікім прыхільнікам творчасці пісьменніка Уладзіміра Арлова Акудовіч публічна даў вызначэнне «вечных дзяцей Беларусі», на якое тыя, якія яго да сябе аднеслі, і пакрыўдзіліся з сапраўды дзіцячай непасрэднасцю. Філосаф з імя, з заходнебеларускім паходжаннем ды адукацыяй, атрыманай не ў БДУ, а ў маскоўскім універсітэце, спадар Валянцін возіцца з літаратурнай моладзю, кшталту «Бум-бам-літа», ці кампаніяй вакол часопіса «Паміж», рэдагуе іх тэксты, ператвараючы недаспелыя сентэнцыі ў філасофскія «цукеркі». А пасля і на прэзентацыях з маладымі інтэлектуаламі паводзіць сябе з імі на роўных, і рэцэнзіі прыстойныя на іх піша. Ну, не так прынята ў нашай хаця і «эўрапейскай», але ўсё ж відочна іерархічный сістэме!

У 2002 Акудовіч выдаў праз газету «Свободные новости» інтэрв'ю ажно на шэсць нумароў, чаго, пэўна, не рабіў ніколі ні адзін беларускі філосаф ні ў якім выданні. Ізноў атрымаўся скандал. У захапленне прыйшлі людзі, да таго далёкія і да філасофіі, і да нацыянальных праблем. Прафесійных жа філосафаў ды нацыяналістаў зачапілі нігілізм і песімізм Акудовіча, а галоўнае – памеры тэксту. І гэта пасля некалькіх год дэкларуемага спадаром Валянцінам дэвіза «Мяне няма»?!

Акудовіч не проста «ёсць», ён яшчэ займае максімум прасторы. І вымушае апанентаў ці адмоўчвацца, ці граць другарадныя ролі. Да прыкладу, ці рэальна на шэсць газетных старонак з Валянцінавымі мудрасцямі даць хоць тры старонкі адказаў?

«Тарашкевіцу» Акудовіч не падтрымлівае, «апосталаў Беларусі» крытыкуе, а то і, увогуле, ігнаруе – паводзіны для большасці сталічных «свядомых» незразумелыя і непрымальныя. Пры тым пазбягае супрацоўніцтва з прапрэзідэнцкімі выданнямі. Ні грошай зарабіць не прагне, ні месца ў прэзідыуме заняць...

Мы пазнаёміліся ў «Беларускім калегіюме» ў 98-ым. Валянцін Акудовіч праводзіў лекцыі самаахдана, захапляўся, шмат апавядаў. Магчыма, ён болей прамоўца, чым кабінетны літаратар, ва ўсялякім разе, асацыяцыі ў яго нараджаюцца імгненна і залежаць ад прамоўленага слова. Яго прамова раз за разам выводзіла на нешта цікавае, і слухаць хацелася далей. Пазней ён рэдагаваў мае тэксты, і, нязменна, хай пасля доўгіх спрэчак і непрыняцця, даводзілася пагаджацца са слушнасцю менавіта яго версій.

З уласнага досведу, стасункі са спадаром Валянцінам лёгкія і прыемныя, бо з аднаго боку, ён заўжды гатовы прыйсці на дапамогу, а з другога – яму асабіста нічога ад цябе не патрэбна – ні да, ні пад час, ні пасля. Канешне, гэтым карыстаюцца, ды і сам, каюся, не раз злоўжыў.

Напэўна, няма ў Беларусі чалавека, які больш за Акудовіча папулярызуе філасофію. Думаю, гэта кепска для тых, хто хацеў бы кантраляваць і маніпуляваць, для тых, хто палохаецца канкурэнцыі і адчувае сваю неадоранасць. Для іншых «функцыянаванне» спадара Валянціна – добры знак і добры ўзор.

**Андрэй МЕЛЬНІКАЎ**

 



# Калі ласка – у «Валадарку»

## З вядомай мінскай турмы зробяць экзатычны гатэль

Сёлета ў скверы між трыма сталічнымі вуліцамі Гарадскі вал, Няміга і Валадарскага нарэшце паўстане помнік Адаму Міцкевічу, які мусіў з'явіцца ў Мінску яшчэ ў 1998 годзе з нагоды 200-годдзя з дня нараджэння гэтага славутага беларуска-польскага паэта. Месца для ўстаноўкі помніка аўтару «Пана Тадэвуша» і «Дзядоў» абрана неблагое, бо гэта ўсё-такі гістарычны цэнтр горада. Бянтэжыць толькі адно – суседства з турмой. Побач са скверам, дзе будзе стаяць Міцкевіч, размешчаны Следчы ізалятар часовага ўтрымання гарадскога ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама – славутая «Валадарка». Іншая справа, калі б блізу яе паставілі помнік, скажам, Алесю Гаруну ці Карусю Каганцу, якія тут у свой час адбывалі пакаранне за вальнадумства. Прынамсі, была б нейкая матываваная прывязка помніка да месца яго ўстаноўкі.

Зрэшты, помніку Адаму Міцкевічу нядоўга стаяць пад астрожнымі сценамі. Не, яго не паставяць тут часова, ды і турму не збіраюцца зносіць. Проста ў мінскіх уладаў ёсць задума ператварыць «Валадарку» ў музейны аб'ект ці нават у экзатычны турэмны гатэль. Бо калі прыбраць з яго калючы дрот, гэты будынак ператворыцца ў сапраўды прыгожы замак, у якім зняволеных злачынцаў заменяць шматлікія турысты.

### Астрог, які натхніў Якуба Коласа

«Валадарка» – турма з 178-гадовым стажам. За трохметровымі турэмнымі сценамі хаваецца сапраўдны помнік архітэктуры – Пішчалаўскі замак. Названы ён так у гонар архітэктара Пішчалы, які пабудаваў яго ў 1825 годзе. Гэта быў першы каменны Мінскі астрог. Дагэтуль зняволеных трымалі ў старым драўляным, на месцы якога зараз размясцілася 3-я клінічная бальніца па вуліцы Леніна.

Новы Мінскі губернскі астрог першапачаткова быў разлічаны на ўтрыманне ўсяго двух з паловай соцень зняволеных. Цікавы факт, асабліва калі ўлічыць, што зараз нейкім чынам тут размяшчаюцца каля дзвюх тысяч чалавек. Праўда, у тыя часы пры турме было шмат «вольных» плошчаў: царква, працоўныя майстэрні, агарод і нават турэмная бібліятэка. Агарод праз нейкі час даваўся здаць у арэнду, бо ад працы зняволеных на ім плёну было няшмат – ураджаі імі паціху раскрадаліся. Майстэрні і бібліятэка пры пашырэнні плошчаў пад камеры з часам таксама былі ліквідаваныя. Раней у гэтых майстэрнях зняволеныя маглі працаваць і зарабляць крыху ўласных грошай на той жа тытунь. Частку заробку, які выдавалі на рукі, яны маглі траціць на што заўгодна. Прычым для гэтага нават не трэба было пакідаць астрог – на яго тэрыторыі, ва ўнутраным дворыку, існаваў свой невялікі рынак.

Праз старую турму ў арыштанцкіх робах прайшлі ўдзельнікі нацыянальнага паўстання 1830–31 гадоў і паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў 1863–64 гадах, а ў мінулым стагоддзі – рэвалюцыянеры і «ворагі народа». Нямала пабывала ў тутэйшых камерах і досыць вядомых людзей ад культуры. Назбіраецца нават на цэлую партрэтную галерэю пад назвай «Славутыя вязні «Валадаркі» для будучага музея ці гатэля. У розны час у «Валадарцы» давялося сядзець пісьменнікам Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, Алесю Гаруну, Карусю Каганцу ды Якубу Коласу, якому якраз тут прыйшла ў галаву задума напісаць паэму «Новая зямля». У наш час пабывалі ў гэтых сценах былы прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір і дэпутат Вярхоўнага Савета Андрэй Клімаў. Праўда, умовы іх утрымання цяжка параўнаць з умовамі, у якіх сядзелі класікі беларускай літаратуры. Тады не было так званых VIP-камер – аднамесных, з санвузлом, тэлевізарам і фіранкамі на вокнах.

Да Мінскага астрога народная назва «Валадарка» прычапілася пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, калі вуліцу Серпухоўскую, на якой ён стаяў, пераназвалі ў гонар рэвалюцыянера Маісея Валадарскага. Дарэчы, за ўсе часы ўсяго тры разы адсюль спрабавалі збегчы зняволеныя – ці то публіка тут сядзела занадта спакойная, ці то сцены Пішчалаўскага замку вельмі непрыступныя. І толькі адныя ўцёкі скончыліся ўдала.

### Зняволеныя ў чаканні «наваселля»

Калісьці гэты амаль двухсотгадовы астрог стаяў на ўскраіне сталіцы. Але горад рос, і пакрысе турма апынулася ў самым ягоным цэнтры: ад яе рукой падаць да плошчы Незалежнасці, Дома ўрада, чатырохзоркавага гатэля «Мінск», будынкаў Мінгарвыканкама, КДБ і МУС. Прама скажам, не надта прэстыжнае суседства для іх. Ды і наогул – не месца турме ў цэнтры сталіцы.

Гэтак лічаць і ў Міністэрстве ўнутраных справаў, і ў Мінгарвыканкаме, бо тут пачалі абмяркоўваць варыянты па пераносе следчага ізалятара куды падалей. Пакуль найбольш верагодным месцам будаўніцтва новага будынка турмы называюцца Калядзічы. Па папярэдніх падліках, для пераносу турмы ў іншае месца і пераўтварэнне «Валадаркі» ў цывільную ўстанову спатрэбіцца болей за 20 мільёнаў даляраў. Сума вялікая. Натуральна, на адным дзяржбюджэце такі маштабны праект не зладзіць. Карацей, спадзеў толькі на інвестараў. Пакуль іх не відаць і не чуваць. Таму на сёння, як нам паведамілі ў Міністэрстве ўнутраных справаў, гэта ўсё дужа далёкія планы, і аб пачатку будаўніцтва канкрэтнай гаворкі яшчэ не вядзецца.

### А як у іх?

Што размесціцца ў Пішчалаўскім замку пасля пераезду СІЗА, дакладна яшчэ невядома. Адзін з магчымых варыянтаў, які прапанаваў галоўны сталічны архітэктар Аляксандр Чадовіч, – гэта турэмны гатэль. Такія экзатычныя гатэлі-турмы існуюць і карыстаюцца вялікім попытам у турыстаў шмат у якіх краінах. Яны ёсць у Англіі, Швецыі, Мексіцы... Самы вядомы з іх – гасцініца ў былой турме Лангхольмэн у Стакгольме. «Камера» з усімі выгодамі (пагадзіцеся, гучыць неяк нязвыкла) на суткі абыдзецца добраахвотнаму «зняволенаму» ў 145 даляраў. Гасцей тут знаёмяць з рознымі відамі катавання, яны могуць паблукаць у лабірынтах турэмных калідораў, залезці па вяровачнай лесвіцы на сцены, інсцэніруючы ўцёкі.

Суткі ў Брыкстанскай турме ў Лондане госцю абыдуцца ў 80 даляраў. У гэты кошт уваходзяць усе паслугі, якімі карыстаюцца сапраўдныя зняволеныя. І нават кормяць тут згодна з турэмным рацыёнам і без кроплі алкаголю. Апрача таго, усе пастаяльцы гатэля мусяць падпарадкоўвацца турэмнаму раскладу: пад'ём – зранку ў 6.30, адыход да сну – роўна ў 22 гадзіны.

Такія ж жорсткія правілы і ў былой турме Пэкіла, што ў Мехіка, якая зараз больш вядомая турыстам як высакакласны гатэль. Аматары экзотыкі тут могуць добраахвотна весці жыццё сапраўдных «зэкаў»: пад'ём у 5 гадзінаў ранку, турэмная баланда на сняданак – і айда на працу ў поле пад наглядам канваіраў. Румынскія ўлады таксама маюць намер зрабіць гатэль з турмы Дафтана, што ў невялікім гарадку Цялега. У трыццатыя гады ўжо мінулага стагоддзя там адбываў тэрмін пакарання румынскі камуністычны дыктатар – Нікалае Чаушэску. У Расіі гасцініцай, якая будзе аформлена ў астрожнай стылістыцы, вырашана зрабіць Асташкоўскую турму ў Цвярской вобласці.

**Інга ГРЫМОНТАВА**



## Куміры

# «Таксіст» стаў хуліганам



Парыжскі суд прыгаварыў да турэмнага зняволення на 8 месяцаў, праўда, умоўна, выканаўцу галоўнай ролі ў фільмах «Таксі», «Таксі-2» і «Таксі-3» акцёра Самі Насеры. Апроч гэтага пакарання ён мусіць заплаціць штраф у памеры 5 тысяч еўра і ў яго адняты вадзіцельскія правы. Усё нібыта ў згодзе з кінасюжэтам. Цяпер ён зможа атрымаць правы толькі праз тры гады, прычым пры ўмове, што пройдзе медыцынскае абследаванне і аплаціць шкоду, якую ён нанёс пацярпелым..

Абвінавачванне супраць Насеры звязана з тым, што ён на парыжскай кальцавой дарозе пабіў кіроўцу, паводзіны якога яму не спадабаліся. Ён прыціснуў да сцяны машыну, у якой, як яму здалося пасля «3–4 выпітых кубачкаў віскі», знаходзіліся папарацы. Пасля таго, як ён разбіў шкло, пасажыры ўцяклі. Насеры дагнаў уцекачоў і жорстка пабіў аднаго з іх – паляка, які не ведаў французскай мовы і не мог нічога патлумачыць крыўдзіцелю. У абвінавачванні пазначана, што ён «паставіў пад пагрозу жыццё другога чалавека, здзейсніў узброены напад, у выніку чаго пацярпелы атрымаў сур'ёзныя раненні і на працягу трох дзён знаходзіўся ў вельмі цяжкім стане» Апроч таго, «Насеры наўмысна разбіў аўтамабіль і адмовіўся прайсці тэст на алкаголь». Акцёр мусіў пацвердзіць у ходзе следства, што «нанёс шмат удараў кулаком па твары « сваёй ахвяры за тое, што той «не аддаваў свае дакументы». У дадатак да штрафу Насеры павінен выплаціць 6,5 тысяч еўра тром пацярпелым і сімвалічную суму ў 1 еўра Лізе па барацьбе з жорсткасцю на дарогах.

Самі Насеры стаў культавым акцёрам пасля яскравага з'яўлення ў карціне Жэрара Пірэса «Таксі».

**Вера ІГНАТЧАНКА**

## Парады

# Цэлюліт – вораг прыгажосці

Гэта не проста назапашаны тлушч і скура, падобная на апельсін па фактуры, якія пазбаўляюць фігуру прывабнасці. Цэлюліт – сапраўдная бяда заходніх жанчын, эстэтычнае пачуццё якіх пакутуе ад гэтага бедства. Паказальна, што сярод аперацый касметычнай хірургіі першае месца цяпер займае ліпасакцыі.

У нас пакуль што шырокая кампанія па барацьбе з цэлюлітам не праводзілася, а вось у Італіі Асацыяцыя дактароў-касметолагаў і Вышэйшая школа касметычнай медыцыны займаліся вывучэннем праблемы, каб скласці найбольш аптымальныя рэкамендацыі жанчынам.

Красавік быў абвешчаны месяцам бясплатнай прафілактыкі цэлюліта і было праведзена адмыслован даследаванне, у якім прынялі ўдзел 6 тысяч італьянак ва ўзросце ад 18 да 57 гадоў і 200 спецыялістаў-медыкаў. Было адзначана, што за апошняе дзесяцігоддзе колькасцт жанчын, якія церпяць ад цэлюліта скарацілася на 10 адсрткаў. Гтае значнае скарачэнне дактары тлумачаць найперш зменамі ў стылі жыцця. Гаврка ідзе пра рэгулярнае наведванне спартыўных пляцовак і правільнае харчаванне, а таксама аб такіх медыка-касметычных працэдурах, як масаж, дэрматэрапія ды іншыя новыя метадыкі прафілактыкі фарміравання тлушчавай ткані.

У ходзе даследавання знайшлі пацвярджэнне вынікі доўгатэрміновых клінічных выпрабаванняў прымення гарманальных супрацьзачаткавых сродкаў. Жанчынам, якія доўга прымалі такія таблеткі, гарантавана зх'яўленне цэлюліта. Пра гэта сведчыць статыстыка: у 89 працэнтаў тых, хто ва ўзросце ад 16 да 35 гадоў працяглы час прымаў супрацьзачаткавыя сродкі, назіраецца цэлюліт У 70 працэнтаў з тых хто такімі сродкамі на карыстаўся, цэлюліт адсутнічае.

**Panorama**

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас:220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: nchas@promedia.by

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
Камп'ютэрная вёрстка Андрэй Дзегцяроў

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія ЛП № 397 ад 14.03.2001 г.
220004, Мінск, вул. Кальварыйская, 24. Замова № 511
Падпісана да друку 30.06.2003 (12.00).
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11

 